# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

М. В




**№ 17-18**

У ПАЧАТКУ ГЭТАГА МЕСЯЦА Ў МАСКВЕ АДБЫЛАСЯ 4-я МІЖНАРОДНАЯ КОНФЭРЭНЦЫЯ КІРАЎНІКОЎ ДЗІЦЯЧАГА КОМУНІСТЫЧНАГА РУХУ. НА ЗДЫМКУ—ЗАМЕЖНЫЯ ДЭЛЕГАТЫ-КОМСАМОЛЬЦЫ (ЗЬЛЕВА НАПРАВА) З МАНГОЛІІ, НОРВЭГІІ І ШВЭЦЫІ.



# Як зрабіць балалайку

Каб зрабіць балалайку, вам патрэбны кускі фанэры, хваёвая дошка, бярозавае палена, трохі меднага дроту і шпулька балалаечных струн.

Інструманты такія: пілка, нож і рубанак.

Спачатку робім галоўнае ў балалайцы—яе скрынку. Для гэтага выражам хваёвую дошку ў 35 см. шырыні і 8 см. даўжыні, рубанкам агаблюем, покі таўшчыня дошкі будзе раўняцца 1 см. Апрацуем яе па форме сьцятай піраміды (мал. 1-шы), выражам з фанэры тры трыкутнікі, аснова якіх павінна раўняцца 12 см., а бакі—35 см.



Выразаныя часткі склеім, як паказана на мал. 3-м. Шчыліны залепім паперай.

Як на малюнку 5-м, з бярэзіны вырэзваем грыф балалайкі. Даўжыня яго—35 см., шырыня—$3^1/_2$ см. Потым на грыфе робім нажом заметкі, дзе павінны быць лады балалайкі. У тыя разрэзы ўклейваем кавалачкі расплясканага меднага дроту. Лады павінны высахнуць.

У галоўцы грыфа робім тры дзірачкі, куды ўтыкаем дубовыя калочкі (мал. 4). Цяпер выстружам хваёвую дошку таўшчынёю ў 2 мілімэтры і выражам з яе верх скрынкі (мал. 6).

У верхняй частцы накрыўкі робім дзірку памерам у 3 см.

Цяпер застаецца падагнаць нажом накрыўку, скрынку і грыф адно да аднаго, і сталярным клеем склейваем усё.

Яшчэ забеце ў скрынку тры цьвічкі, да якіх трэба прымацаваць струны, пастаўце кабылку (мал. 7) і балалайка гатова.





# ЯК ДАГЛЯДАЦЬ ЗІМОЮ ПЧОЛ

Звычайна на зіму рамачныя вульлі ці калоды ставяць у спэцыяльныя памяшканьні (амшанікі ці проста ў скляпы). У некаторых мясцовасьцях пчол трымаюць на таку. Калі пчолы ўжо сабраліся на зімоўку, дык вульлі перасоўваць ня раіцца.

Калі пчолі будуць зімаваць на дварэ, дык праверце ўсе вашы вульлі, ці добра яны агледжаны, ці ёсьць падвойныя сьценкі, ці закладзена паміж сьценкамі салома, ці добра падабрана накрыўка, ці няма шчылін?

Ляток з бакоў трэба паменшыць; вышыня яго павінна быць ня больш 7 мм.

У памяшканьні трэба заткнуць усе дзіркі, каб ня было ветру ці падвею.

Пчолы холаду не баяцца. Яны вытрымліваюць марозы да 15 градусаў. Больш баяцца пчолы гарачыні. Зімуюць пчолы, сабраўшыся ўсе ў адну кучу.

Пасярэдзіне пчол знаходзіцца матка.

Па той прычыне, што тэмпэратура ў вульлі большая ўгары, то пчолы за зіму перасоўваюцца зьнізу ўгору, а дзеля гэтага і яда павінна знаходзіцца на дарозе, па якой перасоўваюцца пчолы.

У сярэдзіне клубка пчол тэмпэратура бывае каля 30 градусаў.

Звычайна зімою пчолы ядуць мала.

Усякае парушэньне спакою, вецер, падвеі, а асабліва гарачыня, прымушаюць пчол шавяліцца, непакоіцца. Зразумела, што чым больш яны шавеляцца, тым больш ядуць. А калі больш ядуць, дык больш выпаражняюцца.

Трэба сачыць, каб пчолы ня былі наглуха зачынены. Ляток трэба пакінуць абавязкова.

Калі вулей ставіцца ў склеп, то яго трэба ставіць у куток, дзе найбольшы спакой, дзе няма шуму зьверху. Калі ёсьць мышы, дык іх трэба ўсіх атруціць ці пералавіць пасткаю, але толькі ня пушчаць кошак.

Час-ад-часу трэба правяраць ці спакойна жывуць пчолы. Калі ўсё добра, дык чуваць вельмі ціхае гудзеньне. Калі ў вульлі неспакойна, дык можна пазнаць па шуму. Тады патрэбна ўсё агледзець і зрабіць так, каб пчолам было лепей.

Калі, адчыніўшы вулей, вы ўбачыце ў пчолаў выпаражненьні, а гэта можна пазнаць па саміх пчолах і па сьценах вульля, дзе яны выпаражняюцца, дык трэба даць пчолам лекавы сіроп—адну шклянку вады і столькі-ж цукру; да гэтага дадайце яшчэ капель 20 формаліну, які можна купіць у аптэцы. Усё гэта трэба зварыць і, калі астыне, разьліць па ячэйках соту.

Такі-ж сіроп трэба даваць пчолам, калі ў іх няма мёду.

П. Л.



ВУЧЫСЯ ЎЛАДАЦЬ ВІНТОЎКАЙ!

Рэдколегія: Буклей В., Гарбуз П., Маўр Я., Якімовіч А.

Адказны рэдактар Гарбуз П.

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!



**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 м-ц 20 к.
„ 3 м-цы 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

**№ 17-18** ○○○○○○○○○ **ВЕРАСЕНЬ** ○○○○○○○○○ **1929 г.**

# ДЗЕНЬ У НОВАЙ ШКОЛЕ

*Нарыс Л. МАЖЭЙКІ*

*Новая Савецкая школа ня мысьліма там, дзе пануе аўтарытэт, пагрозы і ўшчуваньні настаўніка-прыганятага. Такою была старая школа, пра якую і расказвае ў мінулым нумары т. Гурарый.*

*Актыўнасьць, самадзейнасьць саміх гаспадароў школы—вучняў, колектыўная творчая праца ў розных гуртках, лябараторыях, у клясах, дома, карысная навука, якая ўзбройвае патрэбнымі працоўным ведамі і выхоўвае стойкіх будаўнікоў соцыялізму—вось адзнакі новай школы. Пра такую тколу і расказвае т. Мажэйка. За такую школу трэба ўсім рашуча змагацца. Пры дружным падтрыманьні ўсіх працоўных, усіх вучняў мы здолеем у бліжэйшыя гады пабудаваць усюды такія школы, аб якіх тут ідзе мова.*

Хмурая васеньняя раніца нехаця, ляніва ўпаўзае ў пакой. Хмуры дзень шэраю фарбаю пафарбаваў прадметы. Невялічкі пакойчык, перагароджаны шырмаю. За шырмаю Пятрусёў куточак. На маленькім століку акуратна складзены кніжкі. На табарэтцы—акуратна складзена адзеньне. У ложку мірна спачывае гаспадар куточку—Пятрусь.



— Петрык, Пятруська, Пятрусёк! Уставай, сынок! Ты-ж прасіў пабудзіць цябе ў восем гадзін,—варушыць матка заспанага Пятруся.

З-пад коўдры высоўваецца стрыжаная галава, працірае вочы, а потым зноў кідаецца на падушку.

— Пара! У школу спозьнішся!

Напамінак пра школу адразу выгнаў сонную лянівасьць, і Пятрусь ужо на нагах.

— Ой, ой, як позна! Трэба сьпяшацца.

Ля ўмывальніка доўга пыхкае, сапе, падстаўляючы пад халодную ваду з крана голую шыю, плечы, галаву.

— Мама! Дзе ручнік?

— Пашукай сам, сынок, мне няма калі.

— Гэтак бо яго адразу і знойдзеш. У цябе, мама, заўсёды непарадак у хаце—нічога на сваім месцы ня знойдзеш. Дзе-ж гэта ручнік падзеўся? Вось табе й на! Пад ложкам. Ну й гігіена!..

— Досыць, Петрык, ідзі сьнедаць.

— Зараз. Мама, а ты маёй газэткі ня бачыла? Учора яе прынёс і на стол палажыў, а сёньня няма.

— Бог яе ведае, дзе яна.

— Бог, і ўсё ў яе бог. Бог нічога ня ведае, калі ты сама ня помніш.

— У нейкую газэту бацьку я сьнеданьне загарнула.

— Так і ёсьць. Яна, Эх, мамка, якая ты неорганізаваная.

— Петрык, ты зноў за сваё. Заўсёды ў нас з табою сварка. Ідзі лепш сьнедаць.

— Ну, добра, мамка, больш ня буду.

На скорую руку выпіўшы пару шклянак гарбаты, бяжыць у школу.

Вось і яна. Вялікі двохпавярхавы будынак былой гімназіі, а цяпер—сямігодка імя Кастрычнікавай рэволюцыі.

* * *

Шум, вэрхал вісяць у паветры. На ранішняй зьмене большасьць малодшых груп вучацца. Вось дзеці і дурэюць.

— Сябры! ці ня можна цішэй, бо так усю падлогу мы паломім. Давайце лепш у сьцяг гуляць,—супакойвае Пятрусь дзяцей, якія так праз меру разгуляліся.

Вы з ім не жартуйце. Ён вучань пятай групы, а школьны камітэт даручыў вучням старэйшых груп сачыць за парадкам на ранішняй зьмене. Сёньня яго чарга.

— Станавецеся ў рад. Я вас падзялю на групы. Адны будуць фашыстымі, другія—чырвонымі.

— Я не хачу быць фашыстым. Хачу быць чырвоным,—заяўляе раптам адзін карапуз, і сьлёзы ў яго навярцеліся на вачох.

— Міхалка, гэта-ж толькі гульня. Ты-ж павінен ведаць.

Карапуз згаджаецца. Пачынаецца гульня. Сьмех. Піск. Потым, чырвоныя, скарыстаўшы момант, ухапілі сьцяг у фашыстых. Фашыстыя спрачаюцца, няправільна,—крычаць.

Дзылын—дзылын!.. Званок. За міг цішыня запанавала ў калідорах, і толькі ў клясах стрыманы гоман.

— Войтанка! Пятрусь! Да загадчыка школаю.

— Што такое сталася? Можа, настаўніца захварэла, ці... можна?

— Заходзьце! Гэта ты, Пятрусь. Вельмі добра. Алеся Лаўрэнава захварэла. Сёньня ня будзе. Дык ты трохі пазаймайся там.

— А як-жа займацца, Ніна Паўлаўна? Хіба расказаць што, або газэту пачытаць?

— Новы нумар „Піонэрскай Праўды" вышаў. Выберы, што лепшае, і пачытай.

— Правільна, і я так думаў.

Вышаў з габінэту і задумаўся.

— Пачытаць газэтку ня дрэнна. Але дзе-ж яе ўзяць. Ага! У Ліды дастану. Яна мусіць у габінэце грамадазнаўства сядзіць. Загляну туды.

— Пятрусь? Здароў!

— Лідачка! Выратуй з бяды. У цябе газэта ёсьць? У маю матка бацьку сьнеданьне загарнула. Ёсьць? Значыцца, вельмі добра.

* * *

— Дзеці! Настаўніца грамадазнаўства, Алеся Лаўрэнава, захварэла. Сёньня яе ня будзе. Калі хочаце, пачытаем газэту.

— Хочам, хочам!

— Чытай, хоць-бы й ты, Васіль.

— Аб рабоце піонэраў у Англіі.

— У час лекцыяў па грамадазнаўству мы ня раз гутарылі пра Англію?

— Гутарылі.

— Дык давайце паглядзім на мапу, дзе знаходзіцца Англія. Лёня, пакажы.

Чырвонашчокі хлопчык, гадоў адзінаццаці, падышоў да мапы, узяў указку і ўпэўнена ткнуў у... Японію.

— У яго Англія пераехала ў Японію. Здорава.

Пад агульны сьмех нарэшце ўсё-ж такі знайшлася Англія.

* * *

Лекцыя нямецкай мовы.

— Гутэн таг! (Добры дзень).

— Гутэн таг!

— Давайце, дзеці, зараз мы перакінемся ў Нямеччыну, забудзем пра сваю мову на гэты час і пастараемся гаварыць нямецкаю моваю.

— Сіма! Коммэн зі гэр. Вас іст дас? (Ідзі сюды. Што такое?).

— Іх зээ дэр штуль. (Я бачу стул).

— Гут. Вэйтэр. (Добра. Далей).

— Іх зээ дэр тыш, дас фэнстэр, дэр лерштуль. (Я бачу стол, акно, катэдру).

— Гут. Зээр гут. Зэцэн зі зіх. (Добра. Вельмі добра. Сядайце).

Вось дзеці бярэце прыклад з Сімы. Яна сапраўды пераехала ў Нямеччыну і адчула сябе сапраўднай немкай.



— *Не хачу быць фашыстым.*

— Луіза Карлаўна. Вы нам даклятравалі пачытаць піонэрскую часопісь нямецкіх дзяцей „Дзі троммэль" („Барабан"): Калі-ж вы яго прынесяце?

— Не сьпяшайцеся так. Спачатку трохі навучымся чытаць і пісаць, а потым ужо будзем і часопісь чытаць.

* * *

— Эй, хімік! Сяргейка! Таварыш Піліпенка! Чаму ты не адказваеш? Маўчыш, як у рот вады набраўшы. А гэта што яшчэ за новая мода? Прычоска? Хіба ты забыўся пра пастанову санкому, каб усе стрыглі валасы? Пастановам санкому падначальваешся? Не? Мы скора к парадку цябе прыцягнем. Не паможа санком, паклічам вучком. Ён табе так пакажа прычоску, што доўга будзеш помніць,—наскочыла шустрая Сіма—член санкому—на хлапца з кучаравым чубам.

А ў таго рот да вушэй расьцягнуўся—сьмяецца.

— Та-та-та. Засыпала, як кулямёт. І слова сказаць не пасьпееш. Хто табе сказаў, што я не падначальваюся пастановам санкому? Толькі-ж, як вядома, санком пастанавіў, каб усе абавязкова стрыгліся. Дык вось, калі ты першы пакажаш прыклад і астрыжэшся—і я тады астрыгуся.

— Бачыш які разумны знайшоўся. Чаму на сходзе ўвесь час маўчаў, а тут...

— Паслухай, Сімка, аднэй табе па сакрэту скажу. Ты ведаеш, што я хіміяй захапляюся. Я адкрыў такі хімічны спосаб, пры дапамоэе якога борзда растуць валасы, і цяпер правяраю вось гэта на сабе. Ведаеш цяпер, чаму ў мяне так борзда валасы вырасьлі?

— Не мароч галавы. Заўтра каб астрыжаным у школу прышоў, а то з вучкомам будзеш мець справу.

— Ды хіба з табою згаворышся?..

Быццам арліца, якая лётае ў паветры, шукае здабычы, бегае Сіма па школе. Паглядзіць тудысюды, пацікавіцца ўсюды. Нічога не прапусьціць. Праз гэта ў школе прыкладная чыстата.

* * *

— Валодзя! Званілі ўжо. Скарэй у хімлябараторыю. Сяргейка, напэўна, ужо даўно там, а я цябе чакаў.

Хімічная лябараторыя. Няпрыемны пах. Усюды шклянкі, прабіркі, розная пасуда. Вялізарныя шафы з рознастайнымі элемэнтамі. У кутку лябараторыі шафа з атрутнымі элемэнтамі.

20 чалавек схілілі свае галовы над сталамі. Працуюць па дваіх. Перад кожнаю параю надрукаванае заданьне—дзе і што прачытаць, як зрабіць спробу. Трэба ўсё раней добра, уважліва прачытаць, а потым і за вопыты брацца. Выкладчык ходзіць па лябараторыі—наглядае, каб, захапіўшыся, вучні не нарабілі шкоды.

— Васіль Іванавіч! Чаму дома мне не ўдалося ваду разлучыць на элемэнты? Я кавалак провада дастаў, злучыў з асноўным, палажыў у ваду і... нічога ня вышла.

— Так. Але-ж ваду можна разлучыць толькі...

— Дазвольце яму растлумачыць. У лябараторыі мы разлучалі ваду пастаянным токам, а ты дома хацеў зрабіць гэта пераменным. Цяпер ведаеш?

Пачырванеў вучань. Сорамна стала.

— Ну, ня турбуйся. З кожным трапляецца, і са мною бывала так. А ты, Сяргей памажы яму. Яму цяжка даецца хімія. Ён адстае.

— Добра, Васіль Іванавіч, памагу. За тыдзень дагонім, а можа і перагонім групу.

...Вялікі перапынак. У сталоўцы чатырыста пяцьдзесят дзяцей уплятаюць гарачае сьнеданьне, аж вушы трасуцца.

— Цяпер у сталярнай заняткі будуць.

— Сьнеданьне сёньня смачнае. І дома такога ня бывае.

— Лявон, Паўлюк, Манька, прыходзьце сёньня да мяне. Радыё-прыёмнік будзем ставіць.

— Ну? Сам зрабіў? Прыдзем, абавязкова.

* * *

У сталярнай пануе самы прыкладны парадак: кожная рэч, кожная драбніца на сваім месцы. Трэба аршын — на варстаце, управа знойдзеш, трэба стамеску—унізе, налева. Варштат у кожнага свой—за спраўнасьць адказвае „галавою". Прышоў—праверыў, ці ўсё на месцы, а потым і за работу можна брацца.

Працуюць у майстэрні так, каб ніводнага лішняга руху ня было. Зробіш памылку—інструктар тут як тут. Адразу памылку выправіць.

* * *

Ранішняя зьмена скончыла заняткі. Ля бібліотэкі доўгая чарга—мяняюць кніжкі. Бібліотэка—вялікі сьветлы пакой, увесь застаўлены шафамі. А ў шафах сотні кніжак. І здаецца, зусім закапаўся піонэр Міхась сярод безьлічы кніжак.

Ён прымайстраваўся пасярод бібліотэкі за столікам, і толькі скрып пяра выдае яго прысутнасьць.

— Вера Паўлаўна, я рэкамандальны сьпісак канчаю.

— Скарэй. Кніжкі ўжо выдаюць. Скончыш сьпісак, наклеіш на плякат.

— Міхаська! Куды ты забраўся? Хадзем на спорт-пляцоўку.

— Няма калі. Зараз скончу сьпісак і тады—калі ласка.

— Як хочаш. Мы пайшлі.

* * *

На дошцы абвестак такая аб'ява:

Піонэры!

Сёньня ў гадзіну дня ў пакоі драмгуртка сход.

Парадак дню:

1) Падрыхтоўка да Кастрычніка

2) Рознае.

Прачытае піонэр і айда на сход.

— Скора гадавіна Кастрычніка. Наша школа - імяніньніца. Трэба добра падрыхтавацца,—гэта аснова сходу.

— Дазвольце слова. Я прапаную прывесьці ў парадак музэй.

— Спортгуртку піраміды падрыхтаваць.

Музычнаму —вывучыць новыя нумары.

— Драматычнаму — арганізаваць выстаўку.

— Супроць няма?

— Не!

— Я прапаную, каб сьпеўгурток таксама што-небудзь падрыхтаваў.

— Правільна. Мы зусім забыліся пра яго.

— Трэба камісію для правядзеньня сьвята выбраць.

* * *

Вучні суседняй школы да нас у госьці прышлі. Хочуць лябараторыю прыродазнаўства агледзець.

— Чаму-ж ня так?

З школы гоман выліваецца на вуліцу. Дзеці разыходзяцца па хатах.

— Што-ж ты так доўга ня прыходзіў сёньня?—пытае бацька Пятруся.

— А я, тата, на піонэрскім сходзе быў, а потым—у радыёгуртку.

— Што-ж гэта ў цябе за клунак? Купіў што-небудзь? Што-ж ты маўчыш. Сядай абедаць.

— Па абедзе адно заданьне трэба зрабіць... Таварышы прыдуць і мы будзем...—ледзь ня прызнаўся.

— Што, урокі задаюць вам на дом?

— Не. Толькі па геомэтрыі далі заданьне: хату вымераць.

— Што яе мераць: новая скора будзе, тады.

Пасьля абеду, Пятрусь ухапіўся за працу. Поўзаў, вымяраў, закрэсьліваў, вырахоўваў і зноў поўзаў.



*— Васіль Іванавіч! Чаму дома мне не ўдалося ваду разлучыць на элемэнты?*

— Стукаюць. Мусіць да мяне зьвяно прышло.

— Якое зьвяно?

— Школьнае. У нас групы на зьвеньні падзелены. У зьвяне тры чалавекі і павадыр.

— Распратайцеся, сябры.

— Пятрусь! Мы на сходзе зусім забыліся пра выпуск насьценгазэты да Кастрычнікавай рэволюцыі,—сказала раптам Аленка.

— Пра вошта-ж ты думала? Сама журналісткаю марыш быць, а тут... забылася.

— Ну, давайце радыёпрыёмнік устанаўляць будзем.

—А-а, вось якія ў вас заняткі?—усьміхнуўся бацька.—Дзе-ж ты яго змайстраваў?

— У школе. Праверыў у радыёгуртку, а цяпер і дома ўстанавіць можна.

І ўсе ўзяліся ўстанаўляць радыёпрыёмнік.



# АПОШНІ СТРЭЛ

*Апавяданьне В. БІАНКІ*

*Малюнкі Е. МАРОЗАВАЙ*

У кацялку згатавалася сухарніца[1]), і паляўнічыя толькі што сабраліся вячэраць.

Стрэл раздаўся неўспадзеўкі, як гром з чыстага неба.

Прабіты наскрозь куляю, кацялок выпаў з рук Марцям'яна і паляцеў у вагонь. Вострavухая Белка заяхкала і кінулася ў цемру тайговай ночы.

— Сюды бягай, сюды,—крыкнуў Маркел.

Ен знаходзіўся бліжэй ад вялікага кедра, пад якім паляўнічыя асталяваліся на начлег, і першым пасьпеў схавацца за яго шырокі ствол.

Марцям'ян, падхапіўшы з зямлі стрэльбу, мігам апынуўся поплеч з братам. І якраз у свой час пасьпеў: другая куля шарахнулася па ствале і са сьвістам памчалася ў цемру.

— Агонь... Каб ён скрозь зямлю пашоў,—вылаяўся Маркел, цяжка дыхаючы.

Агонь, які ўперад быў заліты сухарніцай, цяпер загарэўся з новай сілай. Агонь дасягнуў да сухіх кедравых сукоў і абхапіў іх шырокім полымем.

Становішча было бязвыхаднае. Яркае сьвятло сьляпіла паляўнічым вочы. Яны ня бачылі нічога за цесным кругам дрэваў, якія абступілі елань[2]). Абараняцца кулямі яны не маглі.

А адтуль, з чорнай пасткі ночы, асьветленая елань была як на ладоні, і нечыя вочы сачылі за кожным іх рухам.

Але зусім спакойна Марцям'ян сказаў:

— Аднак нішто. Белка скажа, адкуль ён заходзіць будзе. Кругом ствала кружыцца,—не дастане.

У гэтых скупых словах было ўсё: і прызнаньне бяды, і дакладнае ўказаньне, як ад яе пазбавіцца.

— Цэлы?—запытаўся Маркел.

— У чыгунчык папала,—проста адказаў Марцям'ян.

Больш яны не сказалі адзін другому ні слова. Нярухома стаялі, цесна прытуліўшыся да жорсткай кары дрэва, і прыслухоўваючыся да сабачага брэху.

Гэтыя два чалавекі зроду ня былі гаваркімі. У тайзе яны радзіліся, у тайзе пражылі ўдваіх усё сваё доўгае жыцьцё. Старэйшаму ішоў ужо сёмы дзесятак, меншаму—шосты. Хто-б сказаў гэта, гледзячы на іх шырокія плечы, моцныя сьпіны.

Вялізарныя, з валасатымі абліччамі, яны стаялі ля цёмнага кедра, як два ўзьнятыя дыбка зьверы.

Напад на іх ворага ня быў нечым нязвычайным. Калі ў руках у цябе скарб, нават у глухой тайзе заўсёды знойдуцца ахвотнікі адабраць яго ў цябе. У братоў такі скарб быў.



*Прабіты наскрозь куляю кацялок выпаў з рук.*

На плячы ў Марцям'яна вісеў скураны мяшок. Мяшок быў з тоўстай, таннай скуры, брудны і неахайны. Але ляжала ў ім тое, што даражэй золата: рупліва садраныя, высушаныя і вывярнутыя бліскучай шэрсьцю ўсярэдзіну скуркі застрэленых ім собаляў.

Вельмі трудна даецца асьцярожны зьвярок паляўнічаму, вельмі часта ў тайзе ліхія людзі стараюцца адабраць у паляўнічага яго дарагую здабычу. Браты насілі мяшок па чарзе, ні на хвіліну з ім не расстаючыся.

Вораг ухітрыўся застаць іх неўспадзеўкі. Аставалася толькі хавацца ад яго нябачнай рукі, пакуль не патухне сам вагонь.

І абое маўчалі, бо ведалі, што другі думае гэтак-жа сама.

Чуваць было, што Белка брахала направа; яны, хаваючыся за стваlom, пераступілі налева.

Але вось сабака дагнаў схаванага цемрай чалавека, кінуўся на яго.

„Дурань... застрэліць", падумаў Марцям'ян і ад гэтай думкі ў яго адразу пахаладзелі ногі.

Раптам сабака перастаў брахаць; чуваць было толькі прыдушанае храпеньне. Стала ціха. У гэтай цішыні раздаўся глухі шум падзеньня і ўсьлед-жа—шорханьне лап, якія сударажна скрэблі зямлю.

— Шайтан... Белку,—закрычаў Марцям'ян, і ўжо на бягу кінуў брату:—стой.

Маркел ува ўсім прывык слухаць старэйшага брата. Так яно было змалку, гэтак засталося і да старасьці.

Выглянуўшы з-за кедра, ён з трывогай сачыў, як брат перабягае небясьпечную асьветленую агнём елань.

[1]) Страва тайговых паляўнічых,—разьмешаныя ў перагатаванай вадзе сухары з маслам і сольлю.

[2]) Палянка.

Калі Марцям'ян быў ужо на другі бок елані, ля яго засьвяціўся вагеньчык і грукнуў стрэл.

Марцям'ян выпусьціў з рук стрэльбу, спаткнуўся і кінуўся вобземлю.

— Бяжы,—крыкнуў ён брату,— Белку...

Маркел зразумеў з паўслова: брат хацеў сказаць, што вораг прышоў не па мяшок, а па сабаку, і што сабаку трэба адабраць абавязкова. Маркел выскачыў з-пад кедра і шырокімі шагамі кінуўся праз елань.

Стрэлаў больш ня было, але, калі Маркел дабег да дрэваў, ён пачуў наперадзе трэск сукоў: хтосьці борзда ўцякаў па тайзе.

Скора густая тайга перарэзала паляўнічаму дарогу. Востры сучок шаргануўся па яго шчацэ, чуць не закрануў вока.

Маркел спыніўся. У чорнай цемені сьпераду ня відаць было нічога. І шагі ворага сьціхлі.

Маркел сунуў стрэльбу ў гушчар і, ня цэлячыся, стукнуў проста перад сабою—у цемень ночы.

Прыслухаўся. Ззаду спакойна трашчаў сабе вагонь.

Маркел успомніў пра брата.

Марцям'ян чуць не раскрычаўся нясьцерпнай лаянкай: брат вярнуўся бяз Белкі, апошняя надзея адабраць сабаку была ўтрачана.

Ён стрымаў: тайга прывучыла яго ня траціць лішніх слоў. Ён ніколі ня лаяў брата і ніколі яго не хваліў.

Маркел перавязаў яму рану.

Куля прабіла Марцям'яну правую руку і шарганула па рабрынах. Рана не пагражае небясьпекай, але крыві ішло многа.

Сагнуўшы параненую руку ў локці, Маркел туга прывязаў яе да грудзей брата. Кроў удалося спыніць.

Браты патушылі агонь, палеглі на зямлі і моўчкі, не заплюшчваючы вачэй, пачалі чакаць сьвітаньня.

Думалі пра сваю Белку і як яе адбіць.

Даражэй за самую каштоўную здабычу для паляўнічага яго верны друг—сабака.

Лепш было-б ім страціць скураны мяшок, чым Белку: калі быў-бы сабака, настралялі зноў-бы собаляў. Цяпер браты былі ня толькі аграблены: яны былі старцы.

Такога сабакі, як іх Белка, больш не дастанеш. Маладая—ёй ня было яшчэ і чатырох гадоў,—яна ўжо была вядомай на ўсю акругу, як лепшая прамысловая сучка. Сабачаняты ад яе мелі на-дзіва верны нюх і чуцьцё. За кожнае давалі 15 — 20 рублёў. За сучку ня раз давалі ўсе дзьвесьце. Але браты не пагналіся нават на такія нячуваныя за сабаку грошы.

Хто мог украсьці яе?

Такая беласьнежная сучка была адна ў вакрузе, яе ўсе ведалі. Чуткі пра яе скора дайшлі-б да гаспадароў яе.

Украсьці мог толькі той, хто задумаў завезьці яе далёка,—можа, у горад,—і там прадаць.

Зайздросьнікаў у шчасьлівых гаспадароў Белкі было многа. На каго падумаць, — гэта цяпер ня цікавіла іх. Лежачы поплеч, яны цяпер думалі аб адным: як злавіць злодзея?



*Марцям'ян выпусьціў з рук стрэльбу...*

І думкі іх былі аднальковымі, усё роўна, як у іх на дваіх была адна галава.

У тайгу была адна дарога—па рацэ. Па ёй заходзілі паляўнічыя на промысел, па ёй і назад вярталіся, у вёскі.

Няма другой дарогі і для злодзея. Яго човен схаваны, напэўна, дзе-небудзь недалёка.

Браты пакінулі свой човен вышэй на рацэ. Дайсьці да яе—трэба патраціць цэлы дзень.

Рака блізка. Калі-б не тайга, не гушчары, дабегчы-бы да ракі можна за паўгадзіны. Тады можна будзе...

Быў у братоў яшчэ скарб,—адабраць гэты скарб у іх можна было толькі разам з жыцьцём:—вернае вока.

Толькі-б убачыць злодзея, а ўжо куля, накірованая спрактыкаванай рукою, зробіць сваю справу.

Толькі што ў парадзеўшай цемры абрысаваліся бліжэйшыя дрэвы, як браты ўсталі з зямлі.

Марцям'ям толькі глянуў на брата ды перадаў яму скураны мяшок, — і абодвы накіраваліся ў адну дарогу.

Каму, як ня ім, ведаць тайгу! Вобмацкам, у цемені яны знайшлі зьвярыную сьцежку і вышлі па ёй на дарожку.

Дарожку-сьцежку працерабілі ў гэтым густым гушчары алені. Па ёй спускаліся яны да рэчкі—на вадапой.

Яшчэ ўчора, прыпыніўшы паляваньне, браты цэлы дзень прапоўзалі па гэтай сьцежцы на карачках.

Няграматныя, яны без запінак чыталі летапіс тайговага жыцьця, упісаную зьвярынымі лапамі ў чорную кнігу зямлі.

Зоркі Маркел заўважыў яшчэ ў тайзе круглы сьлед рысі, зусім сьвежы. Драпежнік ішоў па аленевай сьцежцы. Гэта абяцала для паляўнічых новую забаўную прыгоду з жыцьця добра знаёмых ім зьвяроў.

Крок за крокам разглядзелі і разабралі паляўнічыя, як страшная тайговая кошка падкралася да сьцежкі, узьлезла на дрэвы і засела там чакаць свае ахвяры. Зразумелі паляўнічыя, што яна цярпліва чакала тут на суку, над самай сьцежкай,—марала[1]), яна будзе ісьці на вадапой.

Ці ўдалося пралецець быстраногаму рагачу міма засады, ці паваліўся ён, зьбіты з ног на бягу драпежным зьверам,—вось аб чым хацелі даведацца паляўнічыя, поўзаючы тут у гразі, вытаптанай разрэзнымі капытамі аленя.

Так было ўчора, а сёньня браты нават і ня ўспомнілі пра сьляды, не глядзелі, што ў іх пад нагамі. Праз коўзкія, выбітыя аленямі, калдабаны, па безьлічных карэньнях беглі ды беглі яны вузкаю сьцежкаю, пакуль не пачулі сьпераду мерны шум ракі.

Тады яны пашлі памалу, перамянілі дыханьне, каб ня здрадзіла вока, не закалацілася рука, калі зараз-жа трэба будзе страляць.

Разьвіднівалася.

Яны рассунулі гальлё і паглядзелі на раку так асьцярожна, нібыта сачылі за маралам.

---

[1]) Мараль—сібірскі від аленя.

Рака разьлілася паводкай ад частых васеньніх дажджоў. Насустрач братом імчаўся шырокі бурлівы паток. Ён быў відаць далёка наперадзе.

Чоўна на ім ня было.

Браты паглядзелі назад. Заразжа за імі, рака, абышоўшы гай, крута заварачвалася. Высокі лес на гаку засланяў раку за паваротам.



*Яны рассунулі гальлё і паглядзелі на раку.*

Калі злодзей прамчаўся ўжо сюдою, больш яны ніколі яго ня ўбачаць.

Яны зноў павярнуліся да набягаючых хваляў і стаялі так выступіўшы з гушчару, пільна ўглядаючыся ўверх па рацэ.

Адна і тая-ж нявымаўленая думка непакоіла абодвых:

— Прамчаўся ці не?

І вочы іх бегалі па хвалях, быццам шукаючы на іх сьлядоў уцёкшага злодзея.

Так стаялі яны доўга. Ужо сонца ўзьнімалася над тайгою, пераліваючыся іскрынкамі ў хвалях ракі.

Браты змарыліся за гэту бяссонную ноч; ад таго, што борзда беглі па сьцежцы, ім балелі ногі. Але ім і на думку ня прышло сесьці, нібыта седзячы яны маглі-б не ўпільнаваць плывучага міма іх чоўна.

Наскок ворага перашкодзіў ім учора павячэраць; раніцай у іх ня было часу перакусіць. Яны нават не здагадваліся дастаць з-за пазухі хлеб і пажаваць яго.

Раптам Маркел—вочы яго бачылі далей—закрычаў.

— Плыве.

Гэта было першае слова пасьля доўгага маўчаньня.

Потым усё адбылося борзда, вельмі борзда, куды барджэй, чым гэта можна расказаць.

Човен маланкай імчаўся на іх. Маркел першы ўбачыў на лодцы сабаку і крыкнуў:

— Белка, сюды!

Відаць было: Белка рванулася, але папружка, завязаная ў яе на шыі, скінула яе назад у човен. Чуваць быў хрыплы сярдзіты віск, заглушаны шумам ракі.

Тады Марцям'ян выхапіў з перавязкі хворую руку, леваю наладзіў стрэльбу на сук, правай пацягнуў за спуск, — раздаўся стрэл.

Маркел сказаў:

— Ня дойме... Кінь: мяшкі.

Уздоўж чоўна стаялі насыпаныя пяском мяшкі. Чалавек сядзеў, сагнуўшыся, за мяшкамі, куля не магла дастаць яго.

На момант браты захваляваліся: што рабіць? Іх апошняя надзея ня спраўдзілася.

Човен борзда ляцеў. Нешта трэба было выдумаць цяпер-жа, ня трацячы ні хвіліны.

І вось, у першы раз за дзесяткі гадоў, думкі братоў паскакалі ў розныя бакі.

Старэйшы пасьпешна пачаў закладаць новую кулю.

Малодшы сарваў з сябе скураны мяшок, падняў яго высока над галавой і закрычаў, заглушаючы шум ракі:

— Бяры собаляў, аддай сучку!

У адказ яму з чоўна стукнуў стрэл, куля празьвінела ля вушэй.

Човен, трымаючыся таго берагу, імчаўся ўжо міма іх.

Марцям'ян палажыў стрэльбу на сук. Твар яго быў страшны. Ён мармытаў:

—... Сабачанят злодзею пладзіць. Брэшаш, нікому ня будзе.

Хворая рука дрэнна спраўлялася з работай.

Раптам падскочыў Маркел да брата. Скінуў яго стрэльбу з сука. На той-жа сук, апускаючы сваю стрэльбу, коратка сказаў:

— Маўчы. Я зраблю.

І ўважліва, як на собаля, — зьвярку трэба папасьці ў галаву, каб не папсаваць дарагой скуркі,—пачаў цэліцца.

Марцям'ян прыліп вачыма да беласьнежнай Белкі на чоўне. Белка, выцягнуўшы вузкую прывязь, узьнялася на заднія ногі, пярэднімі павісла ў паветры— ірвалася праз човен да гаспадароў.

Яшчэ міг—і найдаражэйшы іх прыяцель, зьнікшы за паваротам ракі, назаўсёды астанецца ў злодзея.

Ля самага вуха Марцям'яна раздаўся стрэл.

Марцям'ян бачыў, як беласьнежная белка асунулася ўніз мызкай паперад.

Човен зьнік.

Некалькі хвілін браты стаялі нярухома, пазіраючы на хвалі бурнай ракі.

Потым старэйшы сказаў, кіўнуўшы на хворую руку:

— Завяжы тужэй.

Перавязка ссунулася, з раны цякла кроў. Да горла падступала млоснасьць, нейкая невядомая яму дагэтуль слабасьць расплывалася па ўсім вялізарным целе Марцям'яна.

Ён заплюшчыў вочы і не расплюшчваў іх, пакуль брат перавязваў руку.

Ня рана яго непакоіла. Сэрца яшчэ не магло памірыцца з утратай любімага сабакі.

Але моцны шэлест у гушчары прымусіў яго расплюшчыць вочы.

Ня Белка—прыгожая яе здань, уся срабрыстая стаяла перад ім.

Белка скончыла цярушыцца, кінулася на грудзі Марцям'яну, лізнула ў твар, адскочыла, кінулася да Маркела.

Нейкі час Марцям'ян стаяў нярухома.

Потым борзда нагнуўся, здаро-



*Белка кінулася на грудзі Марцям'яну.*

вай рукой падхапіў кавалак прывязі ў Белкі на шыі.

На канцы папружкі была паўкруглая дзірка—сьлед кулі.

Валасаты, грубы твар старога паляўнічага раптам расплыўся дзіцячай усьмешкай

— Етта... здорава стукнуў,— моцна сказаў ён,—і тут-жа апомніўся: гэта-ж былі лішнія словы, іх можна было і не гаварыць.

# РАСТУЦЬ БУЙНЫЯ КОЛГАСЫ

**ПІОНЭРЫ! ПАМАГАЙЦЕ ПАРТЫІ І САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ КОЛЕКТЫВІЗАВАЦЬ БЕЛАРУСЬ. ТОЛЬКІ БУЙНЫЯ КОЛЕКТЫВЫ ЗМОГУЦЬ ВЫЗВАЛІЦЬ ВЁСКУ АД БЕДНАСЬЦІ, ТОЛЬКІ ЯНЫ НЯСУЦЬ РОСКВІТ І ЎЗДЫМ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ**

## КОЛГАС „ЗЯЛЁНЫ ЛУГ“

„Зялёны Луг“ раскінуўся на правым беразе р. Гайны. Домікі колгасьнікаў, як іх назвалі сяляне, праўда, малыя. Вялікіх, прасторных, яшчэ не пабудавалі, толькі пачалі будаваць. У сярэдзіне домікаў мы сустрэлі якраз тое, што хацелася сустрэць у гэтым культурным куточку беларускай вёскі: чыстата, парадак, адчыненыя вокны. Сядзіба з некалькіх такіх домікаў, пасярэдзіне надзвычайна пладавіты, малады невялікі садзік, а навакол—поле.

Аб жыцьці ў колгасе мы атрымалі ўражаньне не адразу, не па адных толькі доміках. Гэтае ўражаньне стваралася пэступова з тых гутарак, якія вяліся з колгасьнікамі на працягу двох дзён.

— Прышлі мы сюды,—кажуць колгасьнікі,—хто адкуль: хто меў пару дзесяцін зямлі, хто балаголіў, а хто бедаваў і без зямлі, і бяз ніякага заработку.

Нас—адзінаццаць сем'яў: дзевяць яўрэйскіх і дзьве беларускія. У хуткім часе ў колгас прымем дзьве польскія сем'і. Нам усе роўныя: яўрэі, палякі, беларусы, рускія. Нас не адрозьнівае нацыя, а праца. Калі чалавек працуе—ён наш, можа жыць і працаваць з намі, а калі ня хоча працаваць, дык нам з ім не па дарозе, той ня наш.

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта згуртаванасьць і колектывізм сярод членаў колгасу—усе за аднаго і адзін за ўсіх, ня гледзячы на нацыю. Другое—культурны выгляд людзей, культурнае вядзеньне гаспадаркі і догляд жывёлы.

* * *

Нізіннае поле колгасу „Зялёны Луг“ пакрыта вучасткамі, якія розьняцца паміж сабою тым, што на іх расьце. Там вучастак капусты, кармовых буракоў, вікі з аўсом, вучастак аўсу, вучастак пшаніцы, бульбы і інш. Усё гэта пышна, сакавіта расьце.

— Вось што ў нас дрэнна,—кажуць колгасьнікі,—насеннай канюшыны няма.

Гэта здалося нам вельмі непраўдападобным, бо побач—расьце канюшына „ў пояс“.

— Чаму?—пытаем.

Колгасьнік Цымэрман разгарнуў канюшыну да зямлі і паказаў на яе даўгія, зьнізу падгніўшыя сьцяблы. Нам стала зразумела, што пры такім буйным росьце ня можа быць добрай насеннай канюшыны.

Сяляне-колгасьнікі цешацца, аднак, з гэтай канюшыны, жыта, аўсу, пшаніцы, якімі яны завалілі гумны і цяпер рупяцца аб тым, каб адрамантаваць малатарню і прыступіць да новай працы.

Яны рады яшчэ і таму, што ваколічныя сяляне, якія ад веку сядзяць на сваіх гаспадарках, ідуць раіцца да іх, да колгасьнікаў, якія пазнаёміліся з зямлёю толькі пяць год таму назад. Колгасьнікі даюць ім парады, гэтыя парады выкарыстоўваюцца і сяляне пачынаюць аб нечым думаць ўсё часьцей і ўсё больш.

Колгасьнікі даюць ваколічным сялянам свае с.-гаспадарчыя машыны. І тут сяляне бачаць, чаму ў колгасьнікаў праца ідзе так хутка, а ў іх так марудна.

На сялянскім шнуры гне сьпіну сялянка з сярпом. За ёю на загоне стаіць дзіцячая калыска. Дзіця кожную мінуту плача, адрываючы яе ад працы. Праца марудная, яна ня клеіцца.

Побач гудзе машына колгасу, зрэзваючы збожжа і кідаючы сноп за снопам на зямлю. Жанчыны з колгасу грамадою са сьпевам падбіраюць за машынаю снапы, вяжуць іх, ставяць у дзесяткі. Дзеці не адрываюць колгасьніц ад працы—іх дзеці ў ясьлях.



*Дзіцячыя ясьлі колгасу „Зялёны луг“.*

І вось аб чым думаюць сяляне ўсё больш і ўсё часьцей: што добры ўраджай залежыць не ад бога і маткі боскай, а ад добрага насеньня, ад штучнага ўгнаеньня, ад добрых кліматычных умоў. Яны ўжо бачаць, дзе крыецца тая агідная прычына, якая прымушала іх век хадзіць у лапцях ды яшчэ ў астопках. Аб гэтым гаворыць куча сялянскіх заяў аб прыняцьці ў колгас, якія ляжаць на стале ў старшыні колгасу.

**Вішнеўскі.**

# Масква піонэрская

УРАЖАНЬНІ ЎДЗЕЛЬНІКА ЗЬЛЁТУ



*На малюнку—зьлётаўцы-піонэры батракі з Беларусі зьнятыя разам з піонэрамі Масквы і Малдавії.*

## ЕДЗЕМ У МАСКВУ

Пяць вагонаў заняла наша беларуская дэлегацыя, едучы ў Маскву. У вагонах весела: хто сьпявае, хто гуляе, хто гутарыць. Іншыя сядзяць і пільна сочаць за станцыямі, каб ніводнай не прапусьціць.

Усе задаволены. Пасажыры больш ня пытаюцца:

— Хто гэта едзе?

— Хто яны?

Усе ўжо ведаюць: піонэры едуць на Ўсесаюзны зьлёт.

Хутка імчыцца цягнік. Едзем! Едзем! У Маскву, у Маскву!.. Адгукваюць калёсы.

## ПІОНЭРСКАЯ МАСКВА

За першы дзень пасьпелі пазнаёміцца і аб'ехаць вялікую частку гораду. Усюды ўбачыш зьлётніка: яны ў асобных гарнітурах. Часамі здаецца, што палова Масквы надзела піонэрскі гальштук. Бачыш, што Масква зусім заваявана піонэрамі. Яны ідуць па галоўных вуліцах, спыняюць рух, зьбіраюць натоўпы гледачоў. У трамваях організуюць канцэрты.

Яны ўва ўсіх кутках Масквы: у парках, на заводах, на пляцох, каля рэчкі. Сягоньня Масква—піонэрская. Спытайцеся ў якой-небудзь бабулі.

— Якое сёньня сьвята?

— Дзіцячае, піонэрскае,—пачуеце адказ.

Вялікія выстаўкі ў клюбах, стадыёнах, тэатрах, у вайсковых лягерах. Усяго не пералічыш і ня скажаш.

## ЗЬЛЁТ ПАЧАЎСЯ

Пяцьдзесят тысяч прадстаўнікоў трох пакаленьняў за некалькі гадзін запоўнілі стадыён Дынамо.

Трыста барабаншчыкаў вышла на пляцоўку з паўночнага ўваходу. Трыста гарністых у гэты-ж момант вышла з паўднёвага, і ў такім-жа парадку, з поўначы і з поўдня, рушыліся піонэры са сьцягамі.

Цяпер трыбуна ўраду набыла зусім іншы выгляд. Вось яны тры пакаленьні рэволюцыі. Трыста сьцягоў падняліся пад гудкі пролетарскага гімну і восем тысяч галасоў адказалі: „Заўжды гатоў“!

„Вылятаюць“ на рапарт піанэры РСФСР. Адразу відаць што яны прыляцелі ад сваіх баявых спраў.

Украіна і Сярэдняя Азія яскрава паказваюць свае перамогі. І раптам становіцца ясным і зразумелым, што піонэры, якія заваявалі сягоньня Маскву, сапраўды заваявалі ўсю нашу вялікую краіну і заваююць увесь сьвет.

Сьцяг зьлёту падняты. Зьлёт пачаўся.

## У КРАМЛЁЎСКІМ ПАЛАЦЫ

На другі дзень зьлёту, у Крамлёўскім палацы, адбывалася пер-



*Швэйцарскія і нямецкія комсамольцы, якія прымалі ўдзел у Міжнародным юнацкім дні ў Маскве, складаюць сваю насьценную газэту.*



*Украінцы* *Туркмэн*



*Піонэркі-казачкі (дэлегаты зьлёту).*

шая Ўсесаюзная піонэрская канфэрэнцыя.

Спачатку піонэры блудзяць сярод высокіх люстраных заляў і калідораў, але потым пачынаюць адчуваць сябе, як дома.

Даклад старшыні ЦБ ЮП тав. Сьвір'янавай, пераліваецца з трыбуны ў запісныя кніжкі піонэраў.

Устае перад вачыма пройдзены організацыяй шлях. Шлях ад барабану да ўдзелу ў практычнай рабоце, да выкананьня дзяржаўных заданьняў па социялістычнаму будаўніцтву.

... Нашы баявыя задачы—узмацніць барацьбу з клясавым ворагам, усёй організацыяй удзельнічаць у культурным будаўніцтве, уцягнуць у социялістычнае будаўніцтва ўсіх дзяцей...

... Цэнтр нашай работы—пяцігадовы плян вялікіх работ.

... Пазашкольная работа—шлях, па якім прыдуць да нас неорганізаваныя.

Наш лёзунг—падвоім організацыю!

Дзелавыя прамовы юных аратараў чаргаваліся са сьпевамі і музыкай.

Радасна, доўгімі воплескамі былі спатканы прадстаўнікі піонэраў Амэрыкі і Англіі.

Далей у парку „Культуры і адпачынку" ідуць спаборніцтвы між піонэрамі Украіны, Азіі, Беларусі па волей-болу, баскет-болу, гарадкох і г. д.

У кожным клюбе, садзе—усюды піонэры, усюды спаборніцтвы. Усюды піонэры паказваюць, што яны ўмеюць ня толькі сьпяваць і гуляць, але ўмеюць і сапраўды памагаць краіне і вучацца быць гаспадарамі організацыі.

## ДЗІЦЯЧЫ КОНГРЭС

На адчыненьні конгрэсу ў парку „Культуры і адпачынку" прымала ўдзел 30 тысяч піонэраў. На пляцу „Змычка" зьліліся ўсе піонэрскія калёны. Прамова тав. **Бела Куна**—прывітаньне ад Комінтэрну малодшаму пакаленьню байцоў за пролетарскую рэволюцыю,—радыё передае па ўсім сьвеце.

Выступаюць чатыры піонэры з розных краін. Іх разлучаюць горы і акіяны, але яднае агульная справа і чырвоны гальштук. Яны гавораць на розных мовах, але адны думкі.

Гром воплескаў нясецца насустрач тав. **Яраслаўскаму і Максу Гэльцу.** Зычны голас Гэльца грыміць:

— Прывітаньне ад МОПР'у! Вы піонэры паказалі на вашым зьлёце, што вы ня толькі сьпяваеце, але што вы ўмееце весьці пад кіраўніцтвам компартыі і комсамолу барацьбу з буржуазіяй да пераможнага канца.

На шыі Гэльца зьяўляецца чырвоны гальштук.

Назаўтра ў „Палацы працы" адбыўся І-шы народны дзіцячы конгрэс.

## ПІОНЭРЫ-ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ

24-га жніўня быў вайсковы дзень зьлёту. Раніцой трубы піонэраў заклікалі зьлётаўцаў на „бой". Піонэрам выдалі сапраўдныя чырвонаармейскія кулямёты і вінтоўкі. Лягер падзяліўся на два „варожых" бакі; 1500 сініх і гэтулькі-ж чырвоных.

З усіх канцоў у штаб ляцяць паведамленьні. Дзяўчаткі тэлефоністкі паўзком залазяць на ўзгоркі і хутка наладжваюць тэлефонную сувязь.

То тут, то там завязваецца гарачая перастрэлка. У паветры запахла порахам. На полі зьявіўся санітарны атрад татарскіх піонэраў. З тылу падцягваюцца знарадныя павозкі. Коньмі кіруюць піонэры: яны рашуча адмовіліся ад дапамогі старэйшых байцоў. Усё робяць самастойна.

Вось „ворагі" сышліся разам. Чырвоныя бягуць з вінтоўкамі і як хапае сілы крычаць „Ура".

Сінія пушчаюць дымавую заслону, але самалёты чырвоных у час заўважылі гэты манэўр і кідаюць бомбы у сініх, якія ўжо далі ходу. Чырвоныя перамаглі.

Гэта была першая масавая паверка вайсковых ведаў піонэраў. Піонэры гэты экзамен вытрымалі добра.

Вечарам была перададзена чырвонаму паветранаму флёту авіётка „Піонэрская Праўда", пабудаваная на сродкі піонэраў СССР.

Зьлёт паказаў, якая зьмена з нас расьце, паказаў будучае нашай краіны. Б. М.-ш.





# КАЎКАЗ

*Падарожныя нататкі і зарысоўкі*
*А. ТЫЧЫНЫ*

Толькі пад'яжджаючы да групы „Мінэральных Вод" пачынаеш адчуваць прыроду Каўказа. З вакна вагону вырысоўваюцца на фоне сіняга неба ўзоры невялікіх гор. Гэта—паўночныя веткі ад галоўнага цэнтральнага ланцуга гор.

Уздоўж чыгункі, у цяжкія для працы гадзіны паўднёвай гарачыні, кіпіць работа. Сотні маленькіх фігурак, раскінутых па скатах гор, гэта на зялёна-жоўтых квадратах палёў заканчваецца збор новага ўраджаю. Кубанская і Церская акругі—гэта жытніца СССР.

Чым больш набліжаешся да мора праз Дагестан, бакі гор усё больш і больш адыходзяць на поўдзень. Дарога праходзіць праз шырокія рыжа-бурыя стэпы. Гаручае сонца выпаліла ўсю расьліннасьць. Ня чутно тутака птушак. Рэдка калі ўспырхне з стэпу ў блакітную вышыню каршун, які вылятае на здабычу.

Пустэчная аднастайнасьць і цішыня нагрэтага стэпу парушаюцца толькі трэскам асаблівых мух—„чпу". Часамі ціха, скрыпуча пройдзе па дарозе арба, якую цягне пара буйвалаў. Глыбока закапаўшыся ў цяжкі груз, сядзіць і дрэмле, абліваючыся потам, хурман. На ім цёплая шапка (папаха) і чаркеска. Падымаючы цэлыя воблакі пылу, пройдзе на тонкіх ножках статак шэра-галовых барашак. Іх падганяе хлапец-падлетак у перавернутым навываратрваным кажусе, ён цягне нейкую жаласную песьню.

Пад'яжджаем да цэнтру Дагестанскай ССР—**Пятроўску.**

Пятроўск — цяпер Махач-Кала, раскінуўся на самым беразе Каспійскага мора. Гэта партовы горад, які шмат перажыў у часы грамадзянскай вайны і з гонарам вышаў пераможцам. Зараз ён з вялізным тэмпам залечвае ўсе свае балючыя раны: растуць кансэрвныя заводы, будуецца новая гавань. Бязупынна трашчаць лябёдкі, якія падносяць будаўнічыя матар'ялы. Расьце прамысловасьць. Расьце культурнае жыцьцё.

Ад Пятроўску да Баку на працягу кілёмэтраў 1‑0 цягнік увесь час ідзе па беразе Касьпійскага мора. Тутака прырода ня мае нічога асабліва цікавага. Часамі па схілах гор сустракаюцца сялібы—аулы. Квадратовыя, зьлепленыя з гліны, невялікія дамы з плоскімі стрэхамі выглядаюць зусім бязьлюднымі, мёртвымі. Несьцярпімая гарачыня заганяе ўсіх жыхароў у асобныя падвальныя памяшканьні.

Толькі буйвалы, якія пазалазілі па шыю ў ваду „прымаюць сонечныя і гразявыя ванны". Яны гадзінамі ляжаць у вадзе або ў брудных лужах. Так, лежачы, жуюць жвачку, аж пакуль гаспадар ня выганіць іх з вады.




*...паказаліся цэлыя лясы нафтавых вышак.*

Ля станцый, яшчэ да поўнага спыненьня цягніка, за вагонамі бягуць збольшага адзетыя хлапчукі. Чорнавокія, смуглыя, крычаць яны: „халодный вада, халодный вада“, і з вёдрамі ў руках наперабой прапануюць выпіць. Бярэш конаўку з надзеяй заспакоіць смагу. Але толькі глынуў адзін раз, расчараваны кідаеш яе. Вада нейкая сьмярдзючая, цёплая, з асаблівым няпрыемным пахам.

На ст. Кізіл-Бурун сабралася група цюркаў. Абутыя яны ў лапці-пантофлі з высока-загнутымі ўверх насамі. Лапці вышыты нацыянальным узорам, залатымі і срэбнымі ніткамі і маюць надзвычайна прыгожы выгляд. У цёплых бурках і папахах, яны важна разгульваюць па пэрону, паднімаючы высока наскі лапцей уверх і па бакох, каб не зачапіцца дзе і не папсаваць загнутых канцоў абутку. Званок. Зноў прыходзіцца ісьці ў духотны вагон, застаецца адна надзея асьвяжыцца—гэта чакаць вечару.

* * *

Сонца падышло ўжо нізка да кругавіду—калі паказаліся цэлыя лясы нафтавых вышак. Хутка гушчар вышак абступіў палатно чыгункі з абодвых бакоў. Балаханы, Баладжары, Курыдыханы і дзесяткі іншых промыслаў абкружылі нас. Перад намі—чорны горад. Якое было зьдзіўленьне для ўсіх, калі замест цэлых рэк нафты, нафтавых фантанаў, убачылі мы чорныя маўклівыя, быццам даўно пакінутыя, пахмурныя вышкі. Амэрыканскі, закрыты спосаб, пры дапамозе электранасосаў, зусім выцісьнуў з дабываньне нафты з паверхні зямлі. Гэтым спосабам больш здабываецца нафты, і вельмі цяжкая праца рабочага, што выцягвае нафту „жалонкай“—асаблівым вядром—становіцца ўжо лягендай.

Ужо зусім цёмна. Набліжаемся да кіпучага катла—Баку—цэнтру Азэрбайджана. Гэта—белы горад. Ён увесь пылае тысячамі лямпачак Ільліча. Уяўляе сабою цэльнае мора агню.

* * *

Пад'яжджаем да Тыфлісу — цэнтру ССР Грузіі і Закаўкаскай СФСР. Стракаты, шумны, крыклівы Тыфліс падзяляецца на дзьве часткі: Тыфліс новы, з усімі савецкамі ўстановамі, цэнтрам буйнага будаўніцтва новай краіны і ўсяго культурнага жыцьця і Тыфліс стары—з адміраючымі вузкімі, дзе цяжка разыйсьціся двум ішакам, вулічкамі, закрытымі зьверху ад сонца рознымі анучамі, рагожамі, фанэраю. Абкружаны старымі мячэцямі. Тыфліс з вядомым Шайтан-рынкам, сернымі ваннамі, прыгнутымі да зямлі старымі жанчынамі, закручанымі ў чадры, армянамі і пэрсамі-гандлярамі, якія сядзяць ля гор залатых дынь, пунцовых, як кроў, памідораў, надзвычайна вялікіх



*Стары Тыфліс*

агуркоў, гарэхаў, інжыру, пэрсікаў і вінаграду. Тыфліс з маленькімі осьлікамі-ішакамі, якія разьдзіраюць паветра жаласным рыкам. За багажом гэтых осьлікаў амаль што ня відаць.

Але ўва ўсёй гэтай стракатай, крыклівай таўкатні цяпер ня дзіва спаткаць дэмонстрацыю камсамольцаў або піонэраў, якія сваімі песьнямі і выклікамі „яшасун“ (няхай жыве) трывожаць мёртвы пакой сьвяшчэнных каменьняў, стройных і вострых мінарэтаў (вежы мячэцяў).

Тутака новае ня толькі жыве побач са старым, але і перамагае рэшткі старога.

По дарозе ў Батум, недалёка ад Тыфлісу, на ст. Мцхет, высока на вяршыне гары высіцца адзін з даўнейшых замкаў—манастыр, які калісьці апяваў Лермантаў у „Мцырах“. Цяпер недалёка ля гэтага старажытнага *) дзіўнага манастыра на самай быстрай рэчцы Кура пабудавана, адна з магутных на Каўказе, гідраэлектрастанцыя ЗАГЭС. Гэта яна засьвеціць тысячамі электрычных сонцаў, абагрэе і дасьць сьвятло тысячам горных сакляў, гэта яна заварушыць новыя фабрыкі і заводы...

Такія дзіўныя кантрасты можна наглядаць тут: струхнелыя сьцены манастыра і магутная гідра-станцыя. Усюды ідзе вялікая барацьба. Але гэта барацьба канчаецца ўсюды на карысьць новага, савецкага Каўказу. Сымбалем гэтаму новаму служыць помнік на аднэй з турбін няўміручаму правадыру, тав. Леніну. Вялізарная фігура Леніна з рукою, выцягнутай на Ўсход, паказвае, што пачатую ім працу за вызваленьне Ўсходу з ланцугоў нявольніцтва, працоўныя скончаць!

*) Па думцы вучоных дасьледчыкаў гэты манастыр мае больш двух тысяч год.

■ ■ ■ ■ ■




# Вера з Правансу

*(З ЗАБЫТЫХ ПАДАНЬНЯЎ ПРА ВЯЛІКУЮ ФРАНЦУСКУЮ РЭВОЛЮЦЫЮ).*

Трывожна, трывожна гукае набат
І гулка разносіцца пошчак:
„Да зброі, народ! Барацьба, барацьба...
На вуліцы, сквэры, на плошчы!
На ломку, на скон каралеўскі закон“!
Так кажа раскацісты звон.
Народнага гневу цяпер ня стрымаць
За зьдзекі. На ўсіх фэодалаў,
На чыншы—падаткі, на голад, на знаць
Сягоньня галота паўстала.
„У Бастылію, сьмела! У пракляты вастрог,
Дзе нашы браты закаваны,—
Яны за пакутны францускі народ
Ўсе сілы свае аддавалі“...
Пад ліпеньскім сонцам нястрымны парыў
І натаўп імкнецца наперад...
З Правансу пякучага ў дальні Парыж
Да бацькі прыехала Вера.
Ёй сумныя весткі Парыж зрыхтаваў,—
На могільнік бацьку занесьлі...



Пакінулі хлеб цэлы тыдзень даваць
І голад пануе пачэсна.
Таму і склікае галоту на згон
Стары і раскацісты звон.
Разбураны дзьверы. Стары комэндант
Спалоханы сходзіць з дарогі.
І зморaным вязьням свабоду ўсім даў
Народ дзеля працы і змогі.
Трохколерны сьцяг над турмой залунаў.
Бяз шапак людзкія галовы.
І Вера ў натоўпе. І чуе яна
Прамоўцаў гарачыя словы.
І кожнае слова кратае сваё.
І боль ахапляе дзяўчыну.
Ну, хіба ў Правансе бядняцкай сям'ей
Яны не пакутвалі з чыншаў?!
Над імі заўсёды там страх навісаў
Патрапіць ў вастрожныя сеці...
Калі-ж каралеўскі ішоў камісар,
Хаваліся ў сполаху дзеці.
І голаду хіба ня зналі яны?
Ім хлеб быў знаёмы з мякіны.
Здаралася так, што ў пачатку вясны
Няма для пасеву зярніны.
Ім добра далася шляхоцкая знаць,
Ад пана нямала цярпелі.
Тры дні хадзіў тата яму працаваць
І сёстры за працай карпелі.
І Верына сэрца калоціцца ў такт,
І вырваўся крык мімаволі:
„Усё праўда! І ў нас, на Правансе, усё так!
І хочам мы праўды і волі“.
Яна пачынае прамову пры ўсіх
Пра вёску, пра голад, пра тату,
Што робяць паны і чыноўнікі ў іх—
Праклятыя арыстакраты!
Дзівуюцца людзі. Увага і ціш.
Вось скончыла. Ўсьцяж хваляваньне.
І радасна бубны склікаюць ісьці,—
Пачатае скончыць змаганьне.
Гарыць нецярплівасьць у цёмных вачах,
Такіх нязвычайна ласкавых,
Забыўшы нядолю, адкінуўшы страх,
Жадае дзяўчына ісьці паміраць
З людзьмі за агульную справу.
А з плошчаў і сквэраў раскацісты звон
Вяшчае: „разбураны панскі закон!“.

*Ю. Таўбін.*



# Гісторыя хлеба.

*Як эгіпцяне выраблялі хлеб.*

Кожны дзень мы ядзім хлеб, але не задумліваемся пра тое, з якога часу ён існуе і ці заўсёды ён ужываўся ў такім выглядзе, як цяпер.

Хлеб пачалі ўжываць з тых часоў, як людзі перасталі жыць вандроўным жыцьцём і займацца выключна жывёлагадоўляю і паляўніцтвам, а спыніліся на мясцох і заняліся земляробствам.

Раней людзі ня ўмелі ня толькі пячы хлеб, але наватператвараць зярняты ў муку. Спачатку зярняты трохі пяклі на вагні і елі ў такім выглядзе. Пазьней пачалі размочваць зярняты ў вадзе, ды з тае кашы, якая атрымлівалася, рабілі перапечкі і высушвалі іх.

Шмат часу прашло, пакуль людзі дадумаліся таўчы зярняты каменьнямі, ператвараючы зярняты ў муку, а пасьля перайшлі да расьціраньня зярнят, ад гэтага атрымлівалася мякчэйшая мука. Муку зьмешвалі з вадою; атрыманую кашу пяклі на вагні, і гэта быў першы хлеб.

Такі хлеб пяклі ўжо старажытныя эгіпцяне за 4000 гадоў да нашага часу.

На малюнку зьверху відаць, як выпрацоўвалі сабе хлеб эгіпцяне. Гэты малюнак, быў высечаны на каменнай пліце, адшукалі яго сярод руін старажытнага гораду Фівы.



*Форма эгіпецкага хлеба.*

Вы бачыце, — направа двое таўкуць зярняты ў ступе; каля аднаго чалавека стаіць кошык з зернем, каля другога—пасудзіна з мукою; трэці прасейвае муку праз сіта і г. д.

Таўчы і расьціраць зярняты было цяжка і людзі прыдумалі ручны млынок. Такі млынок



*Ручны млынок.*

знашлі пры раскопках аднаго старажытнага гораду.

Ён быў пабудаваны гэтак. Унізе быў круглы камень, на ім — камень у выглядзе стажка (конуса), у вяршыню якога ўбіта затычка. На яе надзяваўся верхні камень, які меў форму двух званоў, злучаных вяршынямі. Гэты верхні камень быў з дзіркаю на дне.

Калі малолі, дык зярняты насыпалі ў верхні звон, адкуль яны сыпаліся ў прамежак паміж верхнім звонам і конусам і расьціраліся пры вярчэньні каменя.

Млынок другое формы складаўся з двух пляскатых і круглых каменьняў, у выглядзе жоран. Верхні камень насаджаны на затычку круцілі за знарочыстую ручку.

Круціць гэтыя млынкі рымляне прымушалі сваіх нявольнікаў.

Рабілі рымляне і конныя млыны. Пазьней яны прыдумалі млыны вадзяныя. Значна пазьней, у Нямеччыне былі пабудованы млыны паветраныя.

Цікавая форма хлеба, які пяклі старажытныя эгіпцяне. Булкі хлеба ў іх былі ў выглядзе высокіх пірамід і круглых перапечак. Аб гэтым вучоныя даведаліся, знайшоўшы іх у эгіпэцкіх магілах.

Некалі старажытныя эгіпцяне клалі мерцьвякам у дамавіны вопратку і ежу, думаючы, што ўсё гэта прыгодзіцца пахаваным. Але пры гэтым хлеб яны клалі не сапраўдны, а гліняны, веруючы ў тое, што багі могуць ператварыць гліняную ежу ў сапраўдную. Але ў аднэй дамавіне знашлі сапраўдны хлеб.

Частка гэтага хлеба ператварылася ўжо ў пыл, але некаторыя булкі хлеба захаваліся і знаходзяцца ў бэрлінскім музэі. Хлебу гэтаму больш 4000 год. Ён чорна-бурага колеру і цьвёрды, як камень. Але вучоным удалося даведацца, што сьпечаны быў ён з ячменных зярнят.



*Конны млын у рымлян.*

Аб форме хлеба гавораць і захаваныя ахвярныя дошкі эгіпцян, на якіх паказаны формы хлеба і харчоў.





# ПЕРШЫ СНОП

Апавяданьне *П. Замойскага*

Малюнкі *Н. Сімановіч-Яфімавай*

Авёс быў малы, і бацька мусіў скасіць яго ў пракосы.

Калі абедалі, ён сказаў:

— Заўтра вязаць паедзем!

Раніцай з гумна прынесьлі куль саломы, палажылі ў ночвы, і бацька пачаў паліваць яго вадою— мачыць. Куль добра вымак, салома стала мяккай, гібкай.

Маці паклікала Ганьку:

— Хадзем, дачушка, перавяслы круціць.

Перавяслы круціць Ганька ўмела, ды і хітрасьці тут ніякай не патрэбна.

Скора ля студні ляжала вялікая куча перавяслаў.

Матка зьвязала іх у снапы і палажыла на воз.

Сьнедалі нядоўга. Злажылі на воз усё, што трэба, запрэглі ды рушылі на поле.

Калі прыехалі на поле, матка з Ганькай пачалі згортваць у кучы авёс, а бацька каня распрагаць. Васілёк, маленькі брацік Ганькі, на мяжы забаўляўся, мошак лавіў, мышыныя норкі засыпаў.

Маці крыкнула на бацьку:

— Ну, пойдзем вязаць цяпер.

Ганька сказала:

— А ты згортвай. Потым заграбаць за намі будзеш.

Ганька—дзяўчынка шустрая. Бяда толькі, што сама ня ўмее снапа зьвязаць.

Цяпер яна думала:

— Граблямі зграбаць гэта ня цікава. Вот каб гэта вязаць самой навучыцца.

Ходзіць Ганька з граблямі па загоне, аблічча яе невясёлае. А тут яшчэ з брацікам забаўляйся. За сукенку ўхапіўся, граблі ручкамі ловіць.

— Замінаеш ты мне, Васілёк,—злуецца Ганька.

— Ідзі ты ад мяне. Гуляй адзін, мышэй ідзі лаві.

А Васілёк траха ня плача, просіць:

— Дай і я зглабаць буду!

Бацька таксама вязаць узяўся. Сам вяжа, а галавой матцы на Ганьку з Васільком ківае:—бачыш, які памочнік новы падрос. Грабель просіць.

А Ганьцы так і хочацца кінуць граблі ды паспрабаваць хоць адзін сноп зьвязаць.

— Дзевяты год пашоў, а я яшчэ снапоў вязаць ня ўмею. Сорам ад людзей.

І тут, як на злосьць, дачка суседкі, Алеся, нешта з маткай праз мяжу пачала гаварыць. Сьмяецца, відаць, з яе. Ганька гэта добра ведае.

Алеся, сяброўка Ганькі, ужо добра вязаць навучылася. І матка нават ёй пальчаткі пашыла, каб рук не пакалола аб іржэўнік.

Нездарма Алесіна матка казала:

— Ну, і дачка ў мяне: рукі залатыя! Яна даўно вязаць умее.

Крыўдна Ганьцы. Адвярнулася, як і ня бачыць Алесі.

А матка Алесі ўжо крычыць Ганьчынай:

— А хіба-ж твая яшчэ ўсё вязаць ня ўмее? А такая дзевухна вырасла. Брыдка, брыдка.

Ужо няхай-бы лепш набіў хто Ганьку, чым такія дакоры слухаць. Так і загарэлася ўся.

Адвярнулася і сама за матку адказала:

— Што?.. Ды хто вам гэта сказаў?

— А няўжо і ўмееш?—падсыпала жару суседка.—

А калі суседка яшчэ аказалася, тады зусім угнявілася Ганька. Кінула граблі, да маткі бяжыць:

— Ня буду я заграбаць. Снапы вязаць буду вучыцца. Я не маленькая ўжо. Ад людзей брыдка.

— Ну, што-ж, вучыся. А ці-ж я забараняю табе?

Узяла Ганька перавясла, паслала яго на іржэўніку і кучу аўса палажыла. Доўга тузалася з снапом, правым каленам усё ціснула.

Зьвязала, глядзіць і дзівіцца. Ня сноп, а вырадак нейкі.

Бацька крычыць:

— Траха ні да сьмерці ты задушыла яго.

І матка рагоча, трымаючыся за жывот.

— Чаго вы з мяне кепікі строіце, га?



Матка і паказвае:

— А ты паглядзі, куды ў цябе вузел выехаў.

Паглядзела Ганька, уся чырвонай стала.

— А бадай яго немач!

Вузел такі і на праўду на камель вылез. І ня сноп вышаў, а бутэлька.

Пачала Ганька перавязваць яго. І як ні круціла, нічога ня выходзіла.

Тады матка і пачала вучыць яе. Але ня скора зразумела Ганька ўсю навуку. Усё ўглядалася, як матка вяжа. Толькі пад вечар зьвязала сноп так, як матка вучыла.

— Глядзі, мама, так, ці не?

Матка паварушыла сноп, памацала за вузел.

— Ну, вот і добра. Толькі мацней трэба. І прыціскай сноп не абедзьвюма нагамі, а толькі левай. На перавясла мацней апірайся.

— Дык гэта-ж, мамка, толькі першы сноп. Потым я і сама буду лепш вязаць.

*Казка вучня В. Сулімчыка.* *Малюнак вучня Е. Саматыя.*




Быў цёпленькі летні дзянёчак. Выбег з хаты беленькі коцік пагуляць на двор. Пабегаў па двары, але нічога сабе цікавага не знайшоў.

Пабег ён у сад. Пабегаў па садзе, а потым ускочыў на яблыню, сеў на галіне, наставіў вушкі, наставіў свае шэранькія вочкі ўніз, на зямлю пазірае. Аж бачыць, ля малінавага кусьціка бегае шэранькая мышка.

Як скочыць коцік з яблыні на мышку, а мышка барджэй у сваю норку, схавалася і сядзіць.

Сеў коцік блізка ля норкі, пасядзеў крыху, ня вылазіць мышка. Тады ён падбег к норцы, прыткнуў сваю мыску і кажа:

— Мышка! вылазь, пагуляйма ўдваіх, паглядзі, як цёпленька ды хорашанька тут.

— А ты мяне зьясі,—сказала мышка з норкі, крыху падлезшы ўверх.

— Не, ня бойся, я ніколі мышак ня ем, і цябе есьці ня буду, я з імі люблю хораша гуляць,—ласкава загаварыў коцік.

— Ты хлусіш, коцік, ты хочаш, каб я толькі вылезла, дык ты-б скора мяне схапіў, сказала мышка з норкі.

— Не, ня бойся, я не такі, як тыя вялікія каты, я ніколі мышак ня ем, а яшчэ іх абараняю ад вялікіх катоў. Ты вось вылазь, пагуляем крыху тут і ты пабяжыш у норку, а я—дахаты. Паглядзі, як хораша тут кругом.

— Ну, дык я вылезу, толькі ты адыдзіся крыху ўбок.

Коцік крыху павярнуўся ў бок ды і кажа:

— Ну вылазь, я адышоўся.

Толькі мышка вылезла з норкі, а коцік—цап! яе за сьпінку і задушыў.

Потым залез у малінавы кусьцік і пачаў есьці шэранькую мышку.

Старыя дарогі.

■ ■ ■ ■ ■ ■

# ШКОДНІКІ Ў СЬВІРНОХ

Вялізарную шкоду робяць шкоднікі у сьвірнох. Падлічана што кожны год па ўсім саюзе шкода ад сьвірнавых шкоднікаў складае 350 мільёнаў рублёў. Гэта сума трохі меней усяго сельска-гаспадарчага падатку сёлетняга году.

Каб лепш уявіць сабе якую шкоду нясе народная гаспадарка СССР ад сьвірнавых шкоднікаў, адзначым, што гэтыя шкоднікі зьядаюць штогодна каля трох мільёнаў тон хлеба. Гэтага хлеба хапіла-б для насельніцтва такога вялікага гораду, як Масква, у працягу дзесяці год.

Самы галоўны шкоднік збожжа—жучок—сьвірнавы даўганосік. Гэты шкоднік добра прыстасаваўся да ўмоваў сьвірна, значны час, да $2^1/_2$ месяцаў, ён можа галадаць, можа прабыць доўга ў вадзе і аджыць, лёгка пераносіць маразы і г. д.

Самка жучка адкладае яйца ў зярнятах жыта, пшаніцы, кукурузы і другіх відаў збожжа. Звычайна самка кладзе ад 60 да 150 яец. З яец тыдні праз паўтара—два выходзіць чарвячок-вусень, які харчуецца зернем, зьядаючы яго іншы раз цалкам пакінуўшы толькі абалонку. Затым чарвячок ператвараецца ў кукалку, з якой выходзіць ужо жук, які сьвідруе ў зярняці дзірку.

На поўдні зерне часта трапляе ў сьвіран заражанае *зернявою мольлю.* Зерне гэтае лёгка адрозьніць ад здаровага, бо ў сярэдзіне яго знаходзіцца чарвячок.

Жыве зернявая моль наступным спосабам. Бабачка, падобная на хатнюю моль, адкладае летам яйца на каласы збожжа. З яец выходзяць чарвячкі (вусень), якія, прагрызаючы плеўку каласоў, трапляюць у сярэдзіну зярняці і харчуюцца ім.

Да сьвірнавых шкоднікаў адносяцца: *рысавы даўганосік,* блізкі па выглядуда сьвірнавага даўганосіка, *хлебная ці сьвірнавая моль, хлебны тачыльнік, мучныя кляшчы, маўрытанская казюлька* і інш. Большасьць з гэтых шкоднікаў баяцца сьвятла і знаходзяцца ў цёмных месцах сьвірна, на шчылінах. Не пераносяць яны вялікіх маразоў, падвеяў, частага перамешваньня збожжа.



Каб захаваць збожжа ад сьвірнавых шкоднікаў, трэба пільна наглядаць за чыстатою сьвірнаў. Усё сьмецьце, павуценьне з столі, з сьцен трэба зьмесьці і зьнішчыць. Падлогу добра вымыць мешанінаю каустычнай соды, або моцным гарачым лугам. Сьцены сьвірнаў трэба пабяліць вапнаю з газаю. На 12 літраў вады бяруць ад $1^1/_2$ да 3-х кілёграмаў вапны і 800 грамаў газы.

Гэтыя мешаніны памяншаюць шкоднікаў, але ня зьнішчаюць іх зусім.

Каб зьнішчыць шкоднікаў зусім, сьвірны перад тым, як ссыпаць у іх збожжа, акурваюць атрутнымі газамі: серна-вугляродам, хлёрпікрынам. Работу гэту можна рабіць толькі под кіраўніцтвам спрактыкаванага кіраўніка, напрыклад, інструктара мясцовае станцыі абароны расьлінаў.

Піонэр-атрады разам з камсамольскімі ячэйкамі павінны зьявіцца організатарам колектыўнае барацьбы з шкоднікамі сельскае гаспадаркі.

Трэба наладзіць сувязь з аграномам, з станцыяй аховы расьлінаў, організаваць грамадзкасьць, растлумачыць сялянам, якую шкоду робяць палявыя, гародныя, сьвірнавыя і іншыя шкоднікі, растлумачыць як з імі змагацца; падрыхтаваць патрэбныя матар'ялы для практычнай барацьбы з шкоднікамі, прыцягнуць да працы моладзь і старэйшых сялян. Н. Т






# З КАГО БРАЦЬ ПРЫКЛАД

## ДЖОРЖ СТЭФЭНСОН



Калі вам трэба зьезьдзіць у суседні горад, вы загадзя ведаеце, калі вы прыедзеце туды.

Вам трэба толькі купіць білет, сесьці ў вагон і чорны, няўтомны волат-паравоз павязе вас. Ён будзе імчаць вас, як ні адзін, нават самы лепшы, конь, і пры гэтым павязе цяжар, для перавозкі якога мала было-б і тысячы коняй.

Але хто з вас паверыць, што першыя паравозы, зробленыя 100 гадоў назад, маглі везьці ня больш, чым адзін конь, і праяжджалі па тры, а то і менш кілёмэтры ў гадзіну! Гэта-ж павальней, чым звычайна ідзе чалавек. Пры гэтым паравозы яшчэ сходзілі з рэек траха ня кожную хвіліну.

Цяпер кожны юны тэхнік зможа пабудаваць такі „паравоз", калі прыгледзіцца да яго.

Першыя вынаходцы паравозу нават і ўявіць не маглі цяперашняга цудоўнага волата-паравозу. Ім патрэбны былі цэлыя дзесяткі год, каб выдумаць конструкцыю машыны, якой яшчэ ня было раней.

Такую машыну, якая-б сама сябе везла, спрабавалі зрабіць многія людзі. Ангельцам Нюкомэну і Уату першым удалося змайстраваць машыну, але няўдалую. Яна не магла зьехаць з месца. Француз Кюнье ў 1769 годзе змайстраваў машыну, якая магла рухацца, але яна, вязучы чатырох пасажыраў, магла зрабіць у гадзіну менш за кілёмэтр. Вынаходца Блінкенсон змайстраваў машыну ў 60 конскіх сіл, але такую цяжкую, што пад ёй ламаліся рэйкі, яна не магла праз гэта рухацца.

Шмат яшчэ людзей працавала над утварэньнем паравоза, але першым чалавекам, які ўдасканаліў паравоз, лічаць па праву Джоржа Стэфэнсона.

Джорж радзіўся ў 1781 годзе ў ангельскім горадзе Ньюкэстле. Бацька Джоржа быў простым качагарам на вугольных капальнях. Сям'я была вялікая, маленькага заробку бацькі не хапала. Вось таму Джоржу ўжо з 8-мі гадоў прышлося самому зарабляць на харчаваньне. Ён пільнаваў кароў, потым працаваў на фэрме, і толькі ў 14 год яго прынялі на вугольныя капальні памоцнікам качагара. Джорж гэтай працы быў вельмі рад. Яго з дзяцінства цягнула да машын, да вынаходства. Ён вечна майстраваў якія-небудзь машынкі, сьвісткі і другія цацкі...

І вось гэтаму-ж Джоржу ўдалося зрабіць першы паравоз, які людзі ўдасканалілі і давялі да выгляду тэй дзівоснай машыны, якую мы бачым з вамі зараз.

Думка аб паравозе мучыла Стэфэнсона ўвесь час.

Стэфэнсон хутка павышаўся ў пасадах. Ён стаў спачатку простым машыністым, а потым і старшым. Пасьля-ж таго, як Джоржу Стэфэнсону ўдалося збудаваць машыну, якая вылівала ваду з шахтаў (гэту машыну ня мог збудаваць ніводзін інжынэр), яго назначылі наглядальнікам за работаю ўсіх машын.

Стэфэнсон, ня маючы ніякай асьветы, адчуваў, што гэта вялікі недахоп. І ён пачаў вучыцца ў вячэрняй школе, дзе вучыўся лепш за ўсіх.

У 1813 годзе Стэфэнсон канчаткова парашыў заняцца пабудовай паравозу. Уведаўшы аб гэтым, уласьнік шахты, на якой працаваў Стэфэнсон, парашыў, што яму выгадна будзе набыць такую машыну і стаў дапамагаць Стэфэнсону.

Ён даў яму грошай і рабочых. Праз 10 месяцаў першы паравоз Стэфэнсона быў гатовы. Гэты паравоз вёз 8 павозак, напоўненых даверху вуглём. Гэта было вялізарным дасягненьнем! Праўда, паравоз ішоў вельмі памалу. Усяго 1 кілёмэтр у гадзіну. Гэты паравоз працаваў толькі месяц. Пасьля чаго ён растросься так, што ехаць далей ня мог.



*Першы паравоз.*

І Стэфэнсон пачаў працаваць над новым паравозам. Ён пабудаваў машыну дужую, але ўсё-такі ішла яна вельмі павольна. Гэту машыну назвалі „Пыхцячы Білль“. І вось над удасканальваньнем яе і пачаў працаваць Джорж.

Хутка слава аб гэтай машыне пашырылася па ўсёй Англіі і Стэфэнсона пачалі запрашаць на другія шахты будаваць такія-ж паравозы і чыгункі.

Першую чыгунку Стэфэнсон пабудаваў пры дапамозе ўласьніка вугольных капальняў. Дарога гэта ішла між гарадамі Стоктонам і Дэрлінгтонам. Першы паравоз, пушчаны па ёй, „Рухомы № 1“, вёз з сабою шэсьць вагонаў запоўненых вуглем і мукою, два вагоны з будаўнікамі і сябрамі дырэкцыі, і яшчэ 26 павозак, на якіх мог сесьці кожны, хто захоча. Такім чынам паравоз вёз з сабою 80 тон і праходзіў каля 13 кілёмэтраў у гадзіну.

Гэта была ўжо значна буйная перамога, за якой пачалася пабудова чыгунак ува ўсёй Англіі і па ўсім сьвеце.

Гэтай перамогай быў шлях між Лівэрпулем і Манчэсьцерам.

Улада доўга не давала дазволу на такую дарогу. Уласьнікі каналаў, па якіх перавозіўся тавар, і ўласьнікі коняй горача протэсталі супроць чыгункі. Камісія інжынэраў таксама была супроць, даводзячы, што паравоз атруціць усю мясцовасьць і што каровы з перапуду перастануць даваць малако...

Акрамя таго, гаварылі, што немагчыма збудаваць шлях праз балота „Чортаў мох“, якое ляжала на дарозе.

І толькі ўрэшце ўлада дала дазвол на пабудову.

Пасьля доўгай і напружанай працы дарогу ўдалося праклясьці!

15-га верасьня 1830 году яна была гатова.

На спаборніцтве, абвешчаным уладарамі дарогі, удзельнічала 4 паравозы 4-х вынаходцаў. Прыз узяў паравоз Стэфэнсона „Ракета“. Ён імчаўся з хуткасьцю 45 кілёмэтраў у гадзіну, вязучы за сабою груз каля 12 тон.

Слава Стэфэнсона назаўсёды замацавалася на зямлі. І хоць паравозы Стэфэнсона значна горшыя за цяперашнія, права звацца бацькам паравозу належыць яму.

Так, напружанаю працаю рабочы Стэфэнсон дасягнуў свае мэты.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# ТОМАС ЭДЫСОН

Усім вядомы амэрыканскі вынаходца Томас Эдысон нарадзіўся ў 1847 г. Пачатковую адукацыю набыў дома. З 13 год Эдысон пачаў жыць самастойна; ён дапамагаў бацьком, зарабляючы мізэрныя капейкі ад продажу газэт у цягнікох. У вольны час хлопчык Томас вывучаў хімію, зрабіўшы сабе лябараторыю ў цягніку, у якім ён езьдзіў. У 15 год ён выдаваў газэту, дзе зьяўляўся адначасова: рэдактарам, наборшчыкам і прадаўцом. У 18 год Эдысон ужо спрактыкаваны тэлеграфісты, — перадае 50 слоў у хвіліну. У 23 гады—інжынэр і гаспадар уласнай майстэрні і лябараторыі.

За час з 1874 па 1927 год, гэта значыць, больш, чым за паўвека, Эдысонам зроблена шмат вынаходак. На адну тольку сыстэму электрычнага асьвятленьня Эдысонам было ўзята больш 1000 патэнтаў. Па багацьці і рознастайнасьці вынаходак Эдысон амаль ня ведае сабе роўных. У 1874 г. Эдысон вынаходзіць падвойнае тэлеграфаваньне, якое дае магчымасьць па адным і тым-жа дроце пасылаць дзьве і больш тэлеграмы адначасова. У 1877 г. ён удасканальвае тэлефон, вынайдзены Бэлем. У 1878 г. ён вынаходзіць фонограф, потым вынаходзіць спосаб праводкі электрычнага току пад зямлёй і гэтым дае магчымасьць распачаць цэнтральнае асьвятленьне гарадоў, бярэ патэнт на бяздротавы тэлеграф і інш. Цяпер лябараторыя Эдысона—сапраўдная „фабрыка вынаходак“, дзе пад кіраўніцтвам Эдысона працуе да 300 вынаходцаў і вучоных.

Эдысон ужо стары. Яму зараз больш за 80 год, але ён яшчэ ня кідае свае творчае працы. Хто-ж такі Эдысон? Ці-ж толькі гэній? Не. Эдысон настойлівы, упарты, працавіты чалавек.

Але трэба сказаць, што ўсю сваю ўпартую працу, увесь свой багаты вопыт, Эдысон аддаў на карысьць буржуазіі. Яго вынаходкамі карыстаўся, галоўным чынам, капіталістычны сьвет. Нам трэба вучыцца ў Эдысона вытрымцы, упартасьці, працавітасьці і ўжываць вынікі Эдысонаўскіх вынаходстваў на карысьць рабочае клясы, для будаўніцтва соцыялізму.

## НОВЫЯ ЗАКОНЫ ПІОНЭРАЎ.

1. Піонэр—адданы справе рабочай клясы і заветам Леніна.
2. Піонэр—вораг кулакоў, і буржуяў, за інтэрнацыянал рабочых!
3. Піонэр—верны прыяцель і таварыш дзецям рабочых, сялян і працоўных усяго сьвету.
4. Піонэр—малодшы брат і памочнік камуністаму і комсамольцу у змаганьні за камунізм.
5. Піонэр—рыхтуецца стаць самаахвярным барацьбітом супроць жабрацтва і прыгнечаньня, за соцыялізм.
6. Піонэр—імкнецца да навукі і памагае вучыцца другім. Веды і ўменьне—сіла ў змаганьні за рабочую справу.
7. Піонэр—за дысцыпліну ў вучобе, у працы, за беражлівасьць да грамадзкай маемасьці.
8. Піонэр—актыўны памочнік савету, профсаюзу, коопэрацыі. Піонэр—прыяцель, памочнік, будучы баец Чырвонай арміі.
9. Піонэр—за рост фабрык і заводаў, за тэхнічныя веды, за працоўную дысцыпліну.
10. Піонэр—прыяцель бедняку, актыўны ўдзельнік у змаганьні за ўраджай, памочнік калгасу, савгасу і комуне.
11. Піонэр—супроць нацыянальнай варожасьці за інтэрнацыянальны баявы саюз усіх рабочых і працоўных.
12. Піонэр—змагаецца супроць п'янства і хуліганства, супроць рэлігійных забабонаў.
13. Піонэр—організуе і гуртуе дзяцей пад сьцягам Ільліча. Піонэр—для ўсіх дзяцей прыклад.
14. Піонэр—усё робіць скора і дакладна. Даражыцца сваім і чужым часам. Піонэр—працуе, вучыцца і адпачывае дружна і арганізавана.
15. Піонэр—вораг бруду і курэньня. Піонэр ахоўвае здароўе свае і другіх.
16. Піонэр—працавіты і ўпарты. Піонэр труднасьцяй не баіцца, заўсёды выносьлівы і бадзёры.

# ДЖЭНІ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТЫ

*(Апавяданьне з жыцьця амэрыканскіх піонэраў)*

Джэні Свэдзіг таксама член Дзіцячае Комуністычнае Организацыі Канады. Але пакуль што ён яшчэ быў вельмі малы для барацьбы.

Ды і ўся група, у якой вучыўся Джэні, была прыблізна такога-ж узросту.

Але хутка гэта справа паправілася.

Быў у іх настаўнік Штоктон. З яго ўсё і пачалося.

Аднойчы ідзе ён да дошкі і піша там крэйдай вершы з патрыятычнага канадзкага нацыянальнага гімну.

Потым адыходзіць ад дошкі і кажа такім вясёлым, сяброўскім голасам:

— Джэні Свэдзіг, мой хлопчык, хадзі сюды!

Джэні пашоў да дошкі.

— Прасьпявай нам, калі ласка, гэтыя радкі з нацыянальнага гімну. Калі ты іх ня ведаеш напамяць, дык можаш глядзець на дошку, дзе яны напісаны.

Джэні апусьціў уніз вочы:

— Я не магу сьпяваць гэтае песьні,—сказаў ён спакойна.

— Чаму? Чаму ты ня можаш? Ты хворы, ці сапсаваў свой голас?

— Не, мой голас такі самы, як і раней, але я не магу сьпяваць гімну, я не прызнаю яго...

— Джэні!—гаворыць цяпер Штоктон гучна і нэрвова,—ты павінен зараз голасна прасьпяваць гэтую песьню.

— А я мысьлю, што мне яе сьпяваць непатрэбна. Я не разумею гэтае нацыянальнае пагарды. І, нагогул, людзі адрозьніваюцца ня нацыямі і ня мовамі, а тым, што адны з іх багатыя, а другія бедныя... і...

Штоктон стукнуў кулаком па стале.

— Досыць, Джэні Свэдзіг, ні слова болей. Гэта табе ня будзе даравана. Ідзі зараз да нацыянальнага сьцягу і адсалютуй яму... Гэта будзе паказваць, што ты...

Джэні глядзеў на настаўніка ў працягу некалькіх хвілін. Тады адказаў ён гучна і ўрачыста:

— Нацыянальны сьцяг—гэта ня сьцяг рабочых. Рабочыя ведаюць голькі адзін сьцяг—чырвонага колеру. І дзеці рабочых павінны таксама злучыцца пад гэты сьцяг для барацьбы... І гэтаму сьцягу я аддам пашану.

— Дык ты здраднік!—закрычаў настаўнік.

Ён падбег да Джэні і пацягнуў яго да дзьвярэй. Джэні хацеў не папускацца, але яго рукі былі яшчэ надта слабыя.

Тады злосны настаўнік адным махам схапіў яго за паркалёвую сарочку, адзіную сарочку, нядаўна пашытую маткай Джэні.

Джэні тузануўся, сарочка затрашчала і раптам... Джэні вырваўся, а настаўнік застаўся з вялікім кавалкам Джэнявай сарочкі ў руках.

— Пакіньце мяне!—закрычаў Джэні—гэта была ў мяне толькі адна сарочка...

І Джэні выбег з клясы.

Тады настаўнік, каб паправіць сваё незайздроснае становішча, выклікаў да дошкі вучаніцу Кацю Мак-Кінлэй.

— Мілае дзіця,—пачаў ён лісьліва,—салютуй нацыянальнаму сьцягу.

Але гэты агідны Джэні,—ён, відаць, пасьпеў падбухторыць усіх вучняў. Маленькая Каця глыбока ўздыхнула, сьціснула кулачкі і адказала:

— Джэні добра сказаў, што нацыянальны сьцяг—гэта ня сьцяг пралетараў.

Гэта было для беднага настаўніка занадта.

— Што? і ты таксама? Ты...

Ён падбухторыў усю клясу!.. Але зараз ты атрымаеш за свой пралетарскі сьцяг...

І ён ударыў дзяўчынку два разы ў твар.



*Дэлегацыя амэрыканскіх піонэраў, якая прымала ўдзел на Ўсесаюзным зьлёце.*

Каця заплакала ад болю, але ў той час, калі сьлёзы цяклі па яе шчоках, яе губы вымаўлялі:

— Я ня буду салютаваць... Ніколі... Гэта ня наш сьцяг...

Цяпер ужо аднак узьняліся ўсе вучні. У клясе пачаўся жахлівы гвалт. Дзеці ад узбурэньня білі кулакамі па партах, крычалі і барабанілі.

Штоктон не здаўмеўся зрабіць нічога іншага, як уцячы ў настаўніцкі пакой.

Джэні аднак застаўся дома. Настаўнік паслаў запіску да ягонай маткі з патрабаваньнем, каб Джэні хутчэй прышоў у школу.

Тады паслаў яму старэйшы брат Джэні адказны ліст, з якога Штоктон даведаўся аб тым, што яму трэба паправіць Джэні падраную сарочку.

Калі Джэні пасьля гэтага ізноў прышоў у школу, вучні яго стрэлі спэцыяльна развучанай песьняй—„Чырвоны сьцяг“. Пасьля заняткаў сябры піонэрскае групы разам з усімі вучнямі вырашалі пытаньне аб салюце нацыянальнаму сьцягу.

Штоктон прайшоў міма, узьняўшы галаву ўгору і нібыта нічога не заўважаючы. Джэні перамог.

# МАЛЮНКІ З ЖЫЦЬЦЯ КІТАЮ

*(З кнігі А. Эрдбэрга „Китайские Новеллы“)*

Было гэта ў цяжкі год сухмені. Цэны на рыс узьняліся вельмі высокія. Цэны на бавоўну з кожным годам зьніжаліся. Шмат сялянак і сялян з вёсак нашага раёну прыяжджалі ў горад шукаць працы і цэлымі начамі прастойвалі яны каля фабрычных сьцен.

У час працы я іншы раз хадзіў у прадзільнае аддзяленьне за пакульлем, якое патрэбна было для чысткі машын. У гэты раз, перад сьвітаньнем ужо, незадоўга да канца працы, я таксама накіраваўся ў прадзільнае аддзяленьне. Цьмяны сьвет рэдкіх лямпачак дрыжэў у хмарах бавайняна-папяровага пылу і пары ад людзкога поту.

### Іх фабрыка.

Тут працавалі адны жанчыны і дзеці. Яны стаялі перад машынамі з нізка разьмяркованымі—адпаведна росту дзяцей—верацёнамі і наляту падхоплівалі парваныя ніткі і зьвязвалі іх вузлом.

З усіх канцоў майстэрні даносіўся сухі кашаль. У праходах хадзілі хлопчыкі, згінаючыся пад цяжарам вялізных кашоў з шпулямі гатовае пражы. Жанчыны і дзеці з зямляна-шэрымі абліччамі блукалі ад зморанасьці пасьля дванаццацігадзіннае працы сярод грукату і жужжэньня машын, сумяціцы і смуроду цёмнай майстэрні.

Раптам у сярэднім вузкім праходзе паміж машын я ўбачыў японца—прыганятага, з тонкім дубчыкам у руцэ. Ён спыніўся побач са мною і пільна паглядзеў на зьняможанага бледнага хлопчыка гадоў дзесяці, які стаяў каля верацён, драмаў, хістаючыся і ня сочачы за ніткамі, што рваліся. Дубец прыганятага ўзьвіўся ў паветры, і ў той-жа момант роспачны лямант прарэзаў майстэрню. Усе кінуліся на гэты крык.

### Расправа.

Хлопчык ляжаў на падлозе, закрыўшы твар рукамі. Яго паднялі на рукі, і калі адна работніца сваім кафтаном абцерла кроў з яго твару, мы ўбачылі выбітыя вочы... Хлопчык ляжаў, нібы мёртвы.

Група работніц кінулася да японца, і раней чым ён пасьпеў адскочыць у бок, яны вырвалі дубец з яго рук і пагналі па майстэрні. Яны кідалі ў яго шпулямі ніток і кацялкамі з-пад рысу. Уцякаючы, японец выхапіў рэвольвэр і выстраліў у натоўп. Усе жанчыны і дзеці кінулі свае машыны і згрупаваліся пасярод майстэрні. Некаторыя жанчыны кінуліся ў суседнія майстэрні.

— Кідайце працу, кідайце працу!—крычалі яны.

Падхоплены ўзбурэньнем, я прыбег у машыннае аддзяленьне. Адштурхнуўшы Цай Да-Чао ад машыны, я пакруціў ручку сыгнальнага гудка, апусьціў медныя падважнікі і спыніў машыну. Было чутно, як на ўсёй фабрыцы пачаў паступова заціхаць гул варштатаў. Заместа яго, узрастаў трывожны шум соцень галасоў. Цай Да-Чао спачатку зьбянтэжыўся і глядзеў на мяне шырока раскрытымі вачыма, але пасьля здаўмеўся ў чым справа, схапіў мяне за руку і хацеў адцягнуць ад машыны. Паміж намі завязалася бойка. Ён схапіў мяне за горла і я адчуў, што задыхаюся. Тады я ўдарыў яго каленам у жывот і вызваліўся з яго моцных рук. Ён кінуўся на мяне, але ў гэты момант я заўважыў услон, які стаяў каля машыны. Я падняў яго і з усяе сілы кінуў у галаву майго апякуна. Цай Да-Чао пахіснуўся і грымнуўся на кучу вугалю...

— Малайчына, таварыш!—раптам пачуў я за сваёю сьпінаю.

### Першая забастоўка.

Я агледзеўся. Гэта быў машыністы. Ён, відаць, прышоў на зьмену нам, трапіў на фабрыку ў момант сутычкі з японцам—прыганятым і бачыў маю бойку з Цай Да-Чао.

Машыністы падышоў і паціснуў мне руку. Ён паклікаў свайго памочніка, які ўжо таксама быў тут, і мы вышлі на фабрычны двор, куды сыходзіліся рабочыя і работніцы з усіх майстэрняў.

Тады машыністы, Пан, праціснуўся ў сярэдзіну натоўпу, узьлез на кучу бавоўны, зьвярнуўся да рабочых. Ён гаварыў пра зьверскае абыходжаньне японскіх прыганятых, пра нашу жывёльную працу, пра галоднае існаваньне. Ён заклікаў нас не разыходзіцца з фабрыкі, пакуль мы ня выпрацуем нашых патрабаваньняў, не пачынаць працы, пакуль не даб'емся сваіх правоў.

Сход быў у самым разгары, калі на двор узышоў атрад японскіх маракоў, чалавек паўтараста.

Пачаўся страшэнны перапуд. Натоўп жанчын і дзяцей з усіх майстэрняў кінуўся ўніз і пачаў кідацца ў вароты, маракі калолі іх штыхамі, білі прыкладамі і палкамі. Прыганятыя стараліся яшчэ зачыніць вароты, але мы адсунулі іх і вырваліся на вуліцу. Уздагон нам стралялі, і яшчэ некалькі чалавек было паранена. Так канчалася наша першая забастоўка.



ЦАНА 12 кап.

# АБ УСІМ

## ТЭАТР ЦЕНЯЎ

У вольны вечар вы можаце пазабаўляць гэтым „тэатрам“ меншых дзяцей.



Што трэба мець, каб наладзіць такі тэатр: посьцілку, дзьве сьвечкі ды выразаныя з картону фігуркі. Фігуркі павінны быць цікавымі: жывёлы, індэйцы і г. д.



Малюнак зьнізу дае некалькі ўзораў падобных фігурак.

І так, „акцёры“ загатоўлены. Цяпер пагаворым аб сцэне. Нацягнеце настольніцу ці посьцілку між касякамі дзьвярэй—і сцэна гатова.

Юныя гледачы разьмяшчаюцца з аднаго боку ад настольніцы ў цёмным пакоі; вы з памоцнікам—з другога боку. Фігуркі падвешваюцца на нітачках да цьвічкоў, убітых у верхнюю перакладзіну дзьвярэй; між фігуркай і настольніцай павінна быць невялічкая адлегласьць. Узяўшы ў кожную руку па запаленай сьвечцы, вы зьлёгку перамяшчаеце іх управа і ўлева—і тады цені ад фігурак пачынаюць скакаць. Ад вашага спрыту залежыць прымусіць іх скакаць весялей,—лепш за ўсё пад музыку вашага памочніка.

## „ЮНАТ“



— Цікава што гэта за зьвер: рак ці камар?

### „Як зрабіць раму?“

(*Адказ на задачу з № 13—14*).

Зрабіць раму можна так:



### Кіно на дзесяць тысяч гледачоў.

У Нью-Ёрку адчынены самы вялікі ў сьвеце кіно-тэатр, які зьмяшчае 10.000 гледачоў. Крэслы ў зале зроблены так, што калі тое ці іншае крэсла аслабаняецца гледачом, тады запальваецца прыладжаная да крэсла электрычная лямпачка, дзякуючы чаму ўваход у залю адбываецца без перапынку. На некалькіх экранах у гэтым будынку ідуць розныя кіно-карціны, і калі гледачу не падабаецца адна карціна, ён можа павярнуцца на сваім крэсьле і глядзець другую.

* * *

**У Нямеччыне пабудаваны самы вялікі ў сьвеце фотоапарат. Велічыня пласьцінкі 6 кв. мэтраў, важыць яна 96 клгр.**

* * *

**Самы маленькі самалёт пабудаваны ў Нямеччыне, ён важыць 64 клгр.**

*Гэта бязрукая швачка разьвіла так пальцы ног, што можа шыць імі ня горш, чым рукамі.*



Друкарня „БДВ“. Заказ № 3602. У ліку 1.100 экз. Галоўлітбел № 2610.